КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 1 (272) ◂ 6 студзеня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



КРЫЗІС 1992 ГОДА

Стар. 6

**ШТО КАЗАЎ ШАМІР МАКЕЮ**

Падрабязнасці таемнай сустрэчы «Новаму часу» распавёў журналіст брытанскай газеты «The Guardian» Кэйпіл Камірэдзі

Стар. 5

**ХТО Ў СУХУМІ, ХТО НА ФУТБОЛ**

Параўнальны аналіз навагодніх выступаў прэзідэнтаў СНД выклікае вялікі сумнеў наконт адзінства і будучыні арганізацыі

Стар. 11

**БЕЛЛІТ У 2011 ГОДЗЕ, АБО ПРАДМОВА ДА КАНЦА СВЕТУ**

Стар. 15

ISSN 2218-2144



**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ФІЛАФЕЙ**

Нарыс Сяргея Чыгрына

З НАГОДЫ

# ПРАЦА ДЛЯ ПСІХІЯТРА

Вольга ХВОІН

**У 2012 год Беларусь увайшла з ворахам праблем у сацыяльна-палітычным і эканамічным ладзе. І прагнозы на развіццё падзей аналітыкі робяць неахвотна — дзеянні афіцыйнага Мінска мала прадказальныя.**




Дыпламаты Еўрасаюза падкрэсліваюць, што адносіны паміж ЕС і Беларуссю ў замарожаным стане. Умовы для аднаўлення дыялогу застаюцца ранейшымі — вызваленне і рэабілітацыя палітзняволеных. Але ўлады пакуль не дэманструюць рашэння выканаць гэтыя патрабаванні, і заходні вектар знешняй палітыкі застаецца нязменным. Зрэшты, як і пазіцыя Еўропы, якая не мае намеру ўвесці жорсткія эканамічныя санкцыі, а працягвае «пільна назіраць за падзеямі ў Беларусі».

Больш рашуча ў гэтым плане дзейнічаюць Злучаныя Штаты Амерыкі. Прэзідэнт ЗША Барак Абама 3 студзеня зацвердзіў Акт аб дэмакратыі і правах чалавека ў Беларусі–2011. Аўтарам законапраекта з'яўляецца кангрэсмен ад Рэспубліканскай партыі Крыс Сміт. Дакумент накіраваны на «падтрымку людзей, якія змагаюцца за асноўныя правы супраць Аляксандра Лукашэнкі. Злучаныя Штаты заклікаюць улады Беларусі правесці «новыя прэзідэнцкія і парламенцкія выбары ў адпаведнасці са стандартамі АБСЕ». ЗША таксама заклікаюць Міжнародную федэрацыю хакея з шайбай адмяніць рашэнне аб правядзенні ў Мінску чэмпіянату свету 2014 года.

«Сёння Лукашэнка гаворыць, што не пойдзе на гэтыя ўмовы. Але цяжка сказаць, што ён вырашыць заўтра. І тут я згодны з эканамістам Леанідам Заікам — хай прагнозы аб магчымых кроках улады робяць псіхіятры. У Беларусі рабіць прагнозы — справа няўдзячная. Але я спадзяюся, што вузел з палітзняволенымі Лукашэнка будзе вымушаны неяк развязаць», — гаворыць палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі.

Да слова, хакейнай слабасцю Лукашэнкі Еўропа маніпуляваць не збіраецца. Кіраўнік прадстаўніцтва Еўрапейскага саюза ў Беларусі Майра Мора на гэты конт сказала наступнае: «Я думаю, што гэтае пытанне трэба накіроўваць у спартыўныя федэрацыі. Еўрапейскі саюз не можа ім у гэтым плане нічога раіць — гэта незалежныя і непалітычныя арганізацыі. Еўрапейскі саюз не можа ім забараніць ці рэкамендаваць. Але ж у гэтым чэмпіянаце прымае ўдзел пэўная колькасць краін. І калі ёсць падобныя настроі, як тое, што выказаў Ажубаліс (міністр замежных спраў Літвы Ажубаліс нядаўна прапанаваў пазбавіць Беларусь права праводзіць чэмпіянат свету па хакеі ў 2014 годзе), а я гэтага не выключаю, то яны могуць або байкатаваць гэты чэмпіянат, або заклікаць да байкоту. Сам жа Еўрасаюз як аб'яднанне краін зрабіць гэтага не можа».

Цягам 2011 года Беларусь выйшла з Расіяй на лінію адносінаў, калі кірунак развіцця падзей задае Крэмль. Пакуль гэта выглядае як паступовая інтэграцыя на ўзроўні эканамічных катэгорый, за што наша краіна атрымлівае бонусы ў выглядзе адносна невысокіх цэн на газ і новых уладальнікаў беларускіх прадпрыемстваў.

І хаця ў Расіі перад прэзідэнцкімі выбарамі наспелі свае ўнутраныя канфлікты, што пагражаюць пахіснуць маналіт дуумвірату Пуціна і Мядзведзева, Беларусь па-за ўвагай не апынецца. Якаўлеўскі перакананы: «Праблемы Расіі ў палітычным ладзе не азначаюць, што Расія забудзецца на нас».

Варта нагадаць, што сёлета ў Беларусі адбудуцца выбары ў парламент. Ці, калі больш дакладна, кампанія па прызначэнні дэпутатаў. Традыцыйна парламенцкія выбары надаюць некаторае ажыўленне палітычнай сферы краіны, але сур'ёзных баёў з важкім вынікам чакаць не трэба. Апазіцыйныя сілы яшчэ не вызначыліся са стратэгіяй дзеянняў — удзел ці байкот. Іх агульны раздроблены стан не дае падстаў спадзявацца, што парламенцкія выбары будуць вялікай супольнай кампаніяй, што згуртуе людзей, найперш незаангажаваных у палітычную сферу.

Відавочна, і ўлады не маюць намеру ладзіць чарговую «лібералізацыю» пад парламенцкія выбары. «Лукашэнка загадаў кіраўніцы ЦВК Ярмошынай не чапаць выбарчы кодэкс. Магчыма, больш розгаласу будзе ад дзеянняў ідэолага Аляксандра Радзькова і яго «Белай Русі». Але цяперашняе заканадаўства і агульны стан спраў не даюць ніякіх спадзеваў на тое, што ў Палату прадстаўнікоў патрапяць апаненты рэжыму, — разважае палітаглядальнік Раман Якаўлеўскі. — Увогуле, палёт думкі кіраўніка дзяржавы не мае межаў, таму малапрадуктыўна разважаць пра тое, як зменяцца формы ціску на недзяржаўную прэсу, апазіцыю. Але, безумоўна, гайкі перад гэтай кампаніяй падцісунуць».

Агулам прадстаўнікі апазіцыйных сілаў на гэты год маюць скептычныя прагнозы. Вялікіх прарываў у грамадска-палітычным ладзе ніхто не чакае. Хіба што зоркі сыдуцца ў нечаканай камбінацыі. У супрацьвагу гэтаму экс-кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Казулін, наадварот, мяркуе, што 2012 год будзе ў пэўнай ступені пераломным для Беларусі.

«Гэты год паводле ўсходняй філасофіі — год чорнага дракона. Хто што пасеяў раней, тое і атрымае. Гэта тычыцца як народнай, так і індывідуальнай кармы. Мы будзем мець наступствы, якіх не пазбегнуць. Трэба глядзець на тое, што адбываецца не ва ўладзе, а ў народзе. І я хачу нагадаць: калі мы хочам змяніць нешта вакол, то трэба змяніць сябе, кожны з нас робіць пэўны выбар», — лічыць экс-кандыдат у прэзідэнты 2006 года.

У падтрымку слоў Казуліна аб настроях народа (ці ў супрацьвагу ім і як доказ бязмежнага цярпення беларусаў) можна прывесці вынікі снежаньскага сацыялагічнага апытання Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД). На фоне эканамічнага крызісу сацыёлагі зафіксавалі рост даверу да кіраўніка дзяржавы з 24,5% да 31,2%.

Працяг тэмы на стар. 4

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### АКЦЫЯНЕРЫ СКАЗАЛІ «НЕ»

**Пазачарговы сход акцыянераў ААТ «Дзятлаўскі сыраробны завод» скончыўся вельмі непрадказальна.**

На сходзе было ўсяго адно пытанне: «Пра згоду на павелічэнне долі Гродзенскай вобласці ў статутным фондзе ААТ «Дзятлаўскі сыраробны завод» на суму прадстаўленай фінансавай дапамогі».

На будаўніцтва новых ачышчальных збудаванняў вобласць гатовая была вылучыць 12 мільярдаў рублёў. На гэта суму сырзаводу прапанавалася надрукаваць дадатковую колькасць акцый. Тым самым доля вобласці ў статутным фондзе ААТ павінна была павялічыцца.

Насуперак чаканням абласных чыноўнікаў, «у народзе» апынулася нямала эканамічна і юрыдычна падкаваных акцыянераў, якім не спадабалася такое становішча. У выніку запланаваны паўгадзінны сход выліўся ў двухгадзінны дыспут. Дыспут таксама нічога не вырашыў, таму акцыянеры прыступілі да галасавання, у якім «народ» з перавагай у некалькі працэнтаў (па акцыях) атрымаў перамогу, тым самым адмовіўшы вобласці.

**Паводле сайта «Регион 4»**

### ЛЕНІН ЗАСТАНЕЦЦА Ў ГЛЫБОКІМ

**Чарговы зварот у Глыбоцкі райвыканкам з прапановай перайменаваць вуліцу Леніна накіраваў мясцовы актывіст Зміцер Лупач, які сабраў пад гэтым дакументам шэраг подпісаў жыхароў райцэнтра.**

Незадоўга да гэтага з падобнай прапановай у выканкам звяртаўся Генадзь Плавінскі.

Мясцовыя ўлады ў асобе старшыні выканкама Алега Морхата і начальніка ідэалагічнага аддзела Міхаіла Чарапкоўскага лічаць, што таблічкі са спрэчнымі назвамі (актывісты прапануюць змяніць не толькі назву вуліцы Леніна, але і Маскоўскай, а таксама плошчы 17 Верасня) застануцца на сваіх месцах, прынамсі, бліжэйшым часам. Прычына — выдаткі, якія патрабуюцца на карэкцыроўку тапанімікі.

Пытанні перайменавання аб'ектаў, названых у гонар гістарычных асоб, якія адыгралі вельмі неадназначную ролю ў гістарычным лёсе Беларусі, час ад часу ўзнікаюць у розных рэгіёнах краіны. Цікавае рашэнне было прынята ў гэтай сувязі ў Полацку — у 2008 годзе вуліцы Леніна ў гэтым горадзе вярнулі гістарычную назву «Ніжне-Пакроўская», а ў вуліцу Леніна пераназвалі былую вуліцу Сакко і Ванцэцці.

**Паводле сайта «Народныя навіны Віцебска»**

### ПАТРАБУЙЦЕ БЯСПЛАТНУЮ ЎПАКОЎКУ

**У Баранавічах пакупнік атрымаў маральную кампенсацыю ў 20 тысяч рублёў за тое, што ў краме яму не далі бясплатную ўпакоўку.**

«Беларускія рэгіянальныя навіны» прасачылі, ці стала больш бясплатнай упакоўкі ў баранавіцкім гандлі пасля судовага інцыдэнту.

Аказалася, ніхто з працаўнікоў крам не чуў пра пакаранне, якое можа атрымаць гандляр, які адмовіўся даць пакупніку бясплатную ўпакоўку, — пазбаўленні прэміі.

У першай краме пры просьбе ўзважыць салёныя агуркі ў бясплатную ўпакоўку ў вачах прадаўца прамільгнула цэлая гама пачуццяў — ад здзіўлення да сумневу ў стане розуму пакупніка:

«У нас няма бясплатнай упакоўкі, і ніколі не было, — з расстаноўкай адказала дзяўчына». І на пытанне, у чым жа несці салёныя агуркі, стала пералічваць платныя магчымасці: «Ёсць 50-рублёвыя пакеты, ёсць за 190 рублёў. Але бясплатных няма».

Разам пагартаць правілы гандлю ў краме адмовіліся, спасылаючыся на адсутнасць начальства.

Сітуацыя паўтарылася і ў крамах у цэнтры горада, і ў спальных раёнах. Прычым даходзіла да неспадзяванак — пакеты адрозніваліся ў коштце ў межах адной крамы! Кошты ішлі па нарастальнай ад уваходу ўглыб гандлёвай залы: у агародніннім аддзеле — 80 рублёў, у каўбасным — 120, а ў хлебным аддзеле пакеты ўжо прадавалі за 230 рублёў.

У наступным гандлёвым аб'екце над атрыманнем бясплатнай упакоўкі для адкрытага ўсім рукам хлеба давялося пагарбець. Прадавец пры слове «бясплатная» запрасіла калегу і разам з ёй здзівілася дзіўнаму жаданню загарнуць хлеб у бясплатную ўпакоўку, затым прапанавала высветліць пытанне ў адсутнага дырэктара і, нарэшце, збыла мяне ў каўбасны аддзел.

А між тым, вось выпіс з правіл, зацверджаных Пастановай Саўміна РБ ад 7 красавіка 2004 г. №384 частка 1. п. 25: «Прадавец абавязаны перадаць пакупніку тавар належнай якасці ў тары і (ці) упакоўцы, за выключэннем тавару, які па сваім характары не патрабуе затарвання і (ці) упакоўкі, у поўным наборы (камплект тавараў) і камплектнасці, з дакументамі і прыладдзем, якія адносяцца да тавару. Патрабаванні да якасці, тары і (ці) упакоўкі перадазенага тавару, яго камплектнасці і дакументацыі, камплекту тавараў, а таксама па ўмовах дастаўкі тавару ўсталёўваюцца тэхнічнымі нарматыўнымі прававымі актамі. Тавары перадаюцца пакупніку ў спакаваным выглядзе без збору за ўпакоўку дадатковай платы. Выключэнне складаюць харчовыя тавары, папярэдне фасаваныя прадаўцом у аднаразовыя ўпаковачныя матэрыялы (поліэтыленавыя пакеты, скрынкі, шкляні і іншыя), выкарыстанне якіх дапускаецца тэхнічнымі нарматыўнымі прававымі актамі, без герметычнага пакавання. Па патрабаванні пакупніка прадавец абавязаны перадаць такі тавар у бясплатнай упакоўцы».

**Паводле «Беларускіх рэгіянальных навін»**

## ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# НА ПАЛІТЗНЯВОЛЕНЫХ ЗНОЎ ЦІСНУЦЬ

**Вольга ХВОІН**

**Сваякі палітзняволеных заяўляюць, што на вязняў і іх сем'і апошнім часам істотна ўзмацніўся ціск. Некаторыя звязваюць гэта з магчымым хуткім вызваленнем іх родных з турмаў, некаторыя, наадварот, не бачаць прасвету.**

Па словах сваякоў палітзняволеных, апошнім часам істотна ўзмацніўся ціск на іх сем'і. Былі ўзламаныя паштовыя скрынкі родных, адвакату Саннікава пагражалі пазбаўленнем ліцэнзіі.

Жонка каардынатара грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Дзмітрыя Бандарэнкі Вольга Бандарэнка мяркуе, што ўзмацненне ціску на палітычных вязняў — прыкмета таго, што ўлады гатовыя іх выпусціць.

«Калі ціснуць — значыць, хочуць выпусціць, але на сваіх умовах. Каб яны напісалі прашэнне аб памілаванні, каб потым паказаць, што іх зняважылі, зламалі, каб іх дыскрэдытаваць», — зазначыла жонка палітвязня.

Але Ірына Халіп з гэтым катэгарычна не згодная. «Ніхто нікога не хоча выпускаць і не збіраецца выпускаць. Навошта ціснуць, навошта іх спрабуюць паставіць на калені і напісаць гэтыя паперкі з фразай: «Прашу мяне вызваліць»? Калі хуліганы абрабуюць ваш дом, яны могуць нагадзіць і пасярод вашага пакоя ўжо пасля таго, як вынеслі ўсё рэчы. Гэта паводзіны абсалютна той жа лініі і таго ж парадку. Мала таго, што іх пасадзілі, дык яшчэ і нагадзім: прымусім іх напісаць прашэнне аб памілаванні, а потым не задаволім», — заявіла Халіп.

Сваякі палітзняволеных мяркуюць, што выправіць сітуацыю могуць толькі знешнія палітычныя санкцыі ў дачыненні да Беларусі.

«Вы ўяўляеце, якія гэта грошы, каб праводзіць гэтыя спецаперацыі, сачыць за намі, праслухоўваць... — задае пытанне жонка палітвязня Андрэя Бандарэнкі Вольга Бандарэнка. — Гэта грошы адкуль? Яны былі ад Еўрасаюза, цяпер ад Расіі. Палітыкі гавораць: патрэбныя грошы, бо пакутуе беларускі народ. Так, беларускі народ пакутуе ад гэтых грошай, мы таксама беларускі народ, і мы пакутуем за гэтыя грошы. Бо нас праслухоўваюць, запалохваюць, узломваюць...»

«Еўрасаюз заяўляе: мы працягваем сваю жорсткую палітыку, — кажа жонка былога кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава Ірына Халіп. — У нас такія жорсткія санкцыі, вось мы яшчэ двух чалавек унясём у спіс неўязных. Хлопцы, ды гэтыя людзі ніколі нікуды не ездзілі і не паедуць, бо ўсё жыццё дупай на градах праседзелі, і так праседзяць да канца сваіх дзён. Пры ўсім, што адбываецца, пры ціску на нас і нашых блізкіх, яны гавораць, што застаюцца на сваёй прынцыповай пазіцыі. А ў чым ваша прынцыповая пазіцыя? — Мы ўважліва сочым за сітуацыяй. — Дзякуй, хлопцы!»

Халіп з абурэннем прывяла фразу «аднаго з еўрапейскіх паслоў», які заявіў ёй, што для санкцыяў патрэбныя «перадумовы». «Калі б у вас усё ж такі адабралі сына, мы б увялі санкцыі», — працытавала словы дыпламата жонка палітвязня.

«Ды на адзін дзень спыніце куплядь нафтапрадукты — і да вечара ўсё павылятаюць з турмаў!» — прапанавала Халіп варыянт дзеяння ў краінам Еўрасаюза.

## ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# СТРАЙК ПЕРАНЕСЛІ

**Страйк польскіх памежнікаў адбудзецца 10 студзеня.**

У 2008 годзе працаўнікі польскай мяжы ўжо страйкавалі. Тады на ўезд у Польшчу ўтварыліся чэргі даўжынёй у некалькі кіламетраў. У канцы мінулага года з'явілася інфармацыя пра тое, што сітуацыя можа паўтарыцца, але, як высветлілася, страйк перанеслі.

28 снежня пратэстны камітэт, які прадстаўляе інтарэсы супрацоўнікаў памежных войскаў Польшчы, а таксама турэмнай і пажарнай службы, прыняў рашэнне пра прыняцце мер у сувязі з планаваным падвышэннем заробтнай платы паліцыянтам і вайскоўцам. У рамках пратэсту 12 студзеня 2012 года пройдуць пікеты ў чатырох гарадах-арганізатарах Еўра–2012. Акрамя гэтага, 10 студзеня на 3 памежных пераходах пачнуцца страйкі супрацоўнікаў памежных войскаў, паведамляе Polsha24.com.

Пратэст выкліканы заявай прэм'ера Дональда Туска, які паабяцаў у ліпені 2012 года дадатак да зарплаты ў памеры 300 злотых паліцыянтам і вайскоўцам. Заява прэм'ера выклікала абурэнне ў прадстаўнікоў польскіх памежных войскаў, турэмнай і пажарнай службы.

Акцыі пратэсту на памежных пераходах арганізатары плануюць пачаць 10 студзеня ў 12.00. Акцыя закране 2 сухапутныя і адзін паветраны пераход, пра гэта заявіў кіраўнік Прафсаюзнага камітэта працаўнікоў памежных войскаў Марыюш Тыль.

«На мяжы Еўрасаюза будуць абраны два памежныя пераходы. Страйк пройдзе 10 студзеня, пачнецца ў 12 гадзін. Некалькі гадзін на гэтых пераходах будзе праходзіць так званы «італьянскі страйк». Нашы супрацоўнікі некалькі гадзін будуць рабіць вельмі старанны нагляд, тым самым выконваючы свае працоўныя абавязкі. Натуральна, мы загадзя папярэдзім насельніцтва, на якіх пераходах будзе праводзіцца акцыя пратэсту», — патлумачыў Тыль.

У прэс-службе Дзяржаўнага памежнага камітэта Беларусі гэту інфармацыю не пацвярджаюць. «Пакуль усе польскія службы працуюць у звычайным рэжыме. Пра тое, што акцыя мытнікаў усё ж адбудзецца, я не чуў. У нас такой інфармацыі няма», — адзначыў начальнік прэс-службы Брэсцкай памежнай групы Аляксандр Кіслоў.

**Паводле сайта «Блог Гродна s13»**

## СПРАВА

# БЛОГЕР ВЫЙШАЎ НА СВАБОДУ

**Прыхільнік Руху «За Свабоду» Юрась Навіцкі ўвесь тэрмін арышту 15 сутак трымаў галадоўку пратэсту. Шэсць дзён з пятнаццаці — галадаваў «на сухую».**

Юрася Навіцкага вызвалілі з Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў 3 студзеня ў 23.45. Яго сустракалі жонка Таццяна Грачанікава, а таксама Алесь Макаеў, Ганна Шапуцька, Марына Адамовіч, сябры, прыхільнікі, блогеры-фрэнды.

Юрась падчас арышту актыўна дамагаўся выканання адміністрацыяй афіцыйна зацверджаных правілаў распарадку Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў і абароны правоў утрыманцаў гэтай установы, прадугледжаных законам. Яго спрабавалі ізаляваць, пераводзілі з адной камеры ў іншую. Калі стан здароўя з прычыны галадоўкі пагаршаўся, мусілі выклікаць «хуткую дапамогу», адвозілі ў лякарню і ў той жа час дзівіліся яго стойкасці і непахіснасці.

Супрацоўнікі ЦІП падчас ператрусаў канфіскавалі ў Юрася ўсе ягоныя запісы і эскізы малюнкаў, якія ён рабіў у камеры. Менавіта «акрэсцінскія малюнкі», якія блогер размясціў у сеціве пасля адбыцця ранейшага арышту, выклікалі ў інтэрнэт-супольнасці заўважны рэзананс.

Нагадаем, суд Ленінскага раёна Мінска пакараў актывіста 15 суткамі арышту за нібыта лаянку ва ўпраўленні ўнутраных спраў (пазней у інтэрнэце з'явіўся аўдыёзапіс, што лаяліся насамрэч міліцыянты). Прыхільнік Руху «За Свабоду» адразу пасля вынясення прысуду на знак нязгоды з ім абвясціў галадоўку пратэсту. Адвакат спрабаваў абскардзіць прысуд у Мінгарсудзе, але гэта вынікаў не дало. Юрась Навіцкі мусіў адбываць несправядлівае пакаранне да канца.

**Паводле сайта Руху «За Свабоду»**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД



# НЕ НОВЫ ГОД

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Насуперак усялякім заклікам кіраўніка краіны аб тым, што Беларусь у 2012 годзе чакаюць лепшыя часы (прынамсі, лепшыя за 2011 год), такія аптымістычныя прагнозы не спраўджваюцца. Беларусь увайшла ў новы год са старымі праблемамі. І са старымі прагнозамі, у якія ніхто не верыць.**

Найперш, свята Аляксандру Лукашэнку папсаваў прэзідэнт ЗША Барак Абама. Нягледзячы на Новы год і Каляды, у Абамы не было выходных. Ужо 3 студзеня Абама зацвердзіў Акт аб дэмакратыі і правах чалавека ў Беларусі. Гэты закон працягвае тэрмін дзеяння Акта аб дэмакратыі ў Беларусі, прынятага ў 2004 годзе, а таксама шэраг змяненняў у дакумент, паведамляе прэс-служба Белага дома.

Аўтарам законапраекта з'яўляецца кангрэсмен ад Рэспубліканскай партыі Крыс Сміт. Як паведамляецца на яго сайце, дакумент накіраваны на «падтрымку людзей, якія змагаюцца за асноўныя правы супраць Аляксандра Лукашэнкі — чалавека, якога часта называюць апошнім дыктатарам Еўропы».

Цяперашні Акт аб дэмакратыі пашырае спіс беларускіх чыноўнікаў, да якіх могуць быць ужытыя «візавыя і фінансавыя санкцыі». У іх лік, у прыватнасці, уключаны асобы, якія 19 снежня 2010 года ўдзельнічалі ў гвалтоўным падаўленні лідараў апазіцыі, журналістаў і мірных дэманстрантаў, не згодных з вынікамі апошніх прэзідэнцкіх выбараў.

Злучаныя Штаты заклікаюць улады Беларусі правесці «новыя прэзідэнцкія і парламенцкія выбары ў адпаведнасці са стандартамі АБСЕ».

ЗША таксама заклікаюць Міжнародную федэрацыю хакею з шайбай адмяніць рашэнне аб правядзенні ў Мінску чэмпіянату свету 2014 года — «буйнога спартыўнага мерапрыемства, якое беларускі ўрад плануе выкарыстоўваць для легітымацыі свайго несправядлівага праўлення, гэтак жа, як Камуністычная партыя Кітая выкарыстоўвала Алімпіяду–2008», адзначаецца ў паведамленні, размешчаным на сайце Крыса Сміта.

Варта адзначыць, што Акт у такой рэдакцыі — сур'ёзная «заява на перамогу». Асабліва ў адносінах да Чэмпіянату свету па хакеі. Калі на чэмпіянат, нават калі ён і адбудзецца ў Беларусі, не прыедуць зборныя Чэхіі, Канады, ЗША, Фінляндыі, Швецыі і іншых краінаў, то паўторыцца сітуацыя з Алімпіядай–1980 у Маскве. Тады, нагадаю, большасць заходніх краін байкатавала Алімпіяду з нагоды ўвядзення савецкіх войскаў у Афганістан.

Але ж у СССР тады быў блок з сацыялістычных краін, і Алімпіяда хаця б звонку выглядала прыстойна. А ў Беларусі такога свайго блоку няма. І таму Лукашэнку зноў давядзецца гуляць сам-насам з сабою. Ну, хіба што са зборнай Казахстана ці з трэцім складам зборнай Расіі.

І яшчэ адзін момант. Менавіта з разліку на чэмпіянат свету па хакеі ў Мінску будуюцца гатэлі рознай ступені «зоркавасці». Калі не прыедуць асноўныя фігуранты хакейнага турніру, то не прыедуць і шматлікія чаканыя інтурысты — аматары хакею. Колькі краіна страціць інвестыцый і укладзеных у будоўлю грошай? Што будзе далей з гэтымі гатэлямі? Ці апраўдае сябе гэтае «тэрміновае будаўніцтва»? Між іншым, яшчэ і за кошт забудовы гістарычнага цэнтра Мінска.

От падкінулі Штаты задачку беларускім уладам!

Але беларускія чыноўнікі не губляюць аптымізму. На тыдні зноў абнадзеілі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны. Рэальная заработная плата ў 2012 годзе ў параўнанні з мінулым годам узрасце на 4,2%, заявіў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Аляксандр Румак 4 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

Паводле ацэнкі спецыялістаў, паведаміў ён, намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата ў 2012 годзе ў цэлым па Беларусі ўзрасце не менш чым на 65%, у бюджэтнай сферы — не менш чым на 49,5%.

У 2012 годзе плануецца таксама пашырыць практыку ўкаранення суб'ектамі гаспадарання новых гнуткіх форм і сістэм аплаты працы. Гэта будзе спрыяць стварэнню ўмоў для павышэння заработнай платы работнікам у прамой залежнасці ад эфектыўнасці вытворчасці, якасці і прадукцыйнасці працы, заявіў Румак. Паводле яго слоў, сярод задач у галіне аплаты працы — узмацненне ролі мінімальнай заработнай платы як дзяржаўнай мінімальнай сацыяльнай гарантыі ў галіне аплаты працы.

Як сцвярджае намеснік міністра, рэальная зарплата ў 2011 годзе ў Беларусі не паменшылася. Са студзеня па лістапад яна вырасла ў параўнанні з аналагічным перыядам 2010 года на 3%.

Ну канешне... Можна нават адгукнуцца з'едлівымі авацыямі. Рэальная зарплата вырасла на 3%, а інфляцыя склала больш за 100%. Хто ж вам паверыць, спадарства?

Сумная навіна для прадпрымальнікаў і апазіцыянераў. У Беларусі базавая велічыня з 1 красавіка 2012 года складзе 100 тысяч беларускіх рублёў. Цяпер базавая велічыня складае 35 тысяч рублёў.

Базавая велічыня ў Беларусі з'яўляецца ўніверсальнай меркай для рознага роду плацяжоў. Да базавай велічыні прывязаныя і памеры сацыяльных выплат, напрыклад, дапамог і стыпендый, і рознага роду штрафы, а таксама стаўкі дзяржаўнай пошліны і арэнднай платы.

А вось пасольства Польшчы якраз атрымала калядны падарунак. У найбліжэйшыя паўгода пасольства Польшчы ў Беларусі будзе працаваць на ранейшым месцы па адрасе Румянцава, 6. Як паведаміў прэс-сакратар польскай дыпмісіі Павел Марчук, дагавор арэнды будынка, які заканчваўся 31 студзеня, прадоўжаны яшчэ на паўгода.

«Потым мы будзем працаваць на вуліцы Бядулі, там у бізнэс-цэнтры будзем арандаваць офіс, — расказаў Марчук. — Цяпер мы афармляем дазвол на пераезд у новы офіс, які будзем займаць да таго моманту, як пабудуем уласны будынак».

На прэс-канферэнцыі ў Мінску 22 снежня пасол Польшчы Лешак Шарэпка заяўляў, што яшчэ не ведае, дзе будзе працаваць пасольства з 1 студзеня. На той момант, паводле яго слоў, польскі бок яшчэ не атрымаў адказу ад «Дыпсэрвіса» (прадпрыемства Кіраўніцтва справамі прэзідэнта). «Сітуацыя складаная, але не безнадзейная, — сказаў пасол. — Мы ўжо атрымалі ад МЗС Беларусі дазвол, каб памяняць юрыдычны адрас. На гэтым тыдні падпішам папярэдні дагавор з уласнікам новага будынка, потым — дадатковыя перамовы па ўмовах. На ўсё гэта патрэбны час. Спадзяюся, што беларускі бок разумее, што не толькі мы вінаватыя ў гэтай сітуацыі, і будзе дзейнічаць у адпаведнасці з дыпламатычнымі пагадненнямі».

Спадзяванні пакуль што спраўдзіліся. Будзем чакаць.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ТАЦЦЯНА ДРАЗДОЎСКАЯ



У апошні дзень мінулага года, пасля падвядзення вынікаў этапу Кубка Еўропы ў класе Лазер-Радыял (Навагодняя рэгата ў горадзе Хвар (Харватыя), беларуска Таццяна Драздоўская заняла трэцяе месца. Заваяваўшы бронзавы медаль этапу, па выніках серыі наша спартсменка стала ўладальніцай Кубка Еўропы 2011 года, паведамляе *yachting.by*.

Гэтым выступам Таццяна Драздоўская пацвердзіла свой статус топ-спартсменкі ў алімпійскім класе яхт Лазер-Радыял. Нагадаем, што Кубак Еўропы 2010 года таксама належыць беларускай яхтсменцы.

Гэты цудоўны навагодні падарунак рушыў услед за заваяваннем алімпійскай ліцэнзіі для нашай краіны на чэмпіянаце свету ISAF па ветразевым спорце, які праходзіў на пачатку снежня ў Аўстраліі.

### МІКАЛАЙ СТАТКЕВІЧ

Экс-кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч паўстане перад судом па ўзмацненні пакарання, які адбудзецца ў шклоўскай калоніі 12 студзеня.

Паводле слоў жонкі палітыка Марыны Адамовіч, афіцыйны ліст з калоніі атрымала адвакат Статкевіча. «Згодна з выканаўчым кодэксам, калі чалавек прызнаны злосным парушальнікам, то яго могуць перавесці ў турму. Звычайна, гэта крайняя мера. Але ў дачыненні да тых, хто для некаторых грамадзян уяўляе небяспеку, яны не цырымоняцца», — цытуе Марыну Адамовіч БелаПАН.

Яна мяркуе, што мужа перавядуць у магілёўскую турму №4. «Паводле закона, для так званых «першаходаў» існуе толькі Магілёў. Але якія варыянты могуць з'явіцца яшчэ, я не ведаю», — сказала жонка палітыка. Паводле яе слоў, спатканні ў такім разе, магчыма, будуць толькі кароткатэрміновыя і толькі раз на год.

Марына Адамовіч абвяргае магчымасць напісання Мікалаем Статкевічам просьбы аб памілаванні. «Просьбы аб памілаванні нават не хачу абмяркоўваць. Гэтага не можа быць, таму што не можа быць ніколі», — заявіла яна.

Адміністрацыя шклоўскай калоніі, дзе адбывае пакаранне Статкевіч, разглядае яго як злоснага парушальніка рэжыму. Як расказала Адамовіч, яго абвінавачваюць у тым, што ён знаходзіўся без біркі з нумарам зняволенага на адзенні, а таксама ў тым, што не ўказаў у спісе асабістых рэчаў насоўкі. Разам з тым яна разглядае гэтыя парушэнні толькі як фармальную падставу, мяркуючы, што палітыку помсцяць за інфармацыю, што распаўсюджваецца пра яго і ад яго імя.

### МІКАЛАЙ ЗІМІН



Рабочыя РУВП «Граніт» (Мікашэвічы, Брэсцкая вобласць) спрабуюць стварыць на прадпрыемстве пярвічную арганізацыю Беларускага незалежнага прафсаюза (БНП) гарнякоў, хімікаў, нафтаперапрацоўшчыкаў, энергетыкаў, транспартнікаў і будаўнікоў.

24 снежня з ініцыятывы рабочых «Граніта» адбылася іх сустрэча з прадстаўнікамі незалежнага прафсаюза. Некалькі соцень чалавек выказалі жаданне выйсці з дзейнай прафсаюзнай арганізацыі РУВП «Граніт», больш за 200 — ужо напісалі заявы. «Прычынай выхаду з прафсаюза рабочыя назвалі невысокія зарплаты і не вельмі добрае стаўленне», — сказаў старшыня БНП Мікалай Зімін БелаПАН.

26 снежня на імя гендырэктара «Граніта» быў накіраваны ліст з просьбай выдзеліць новай прафсаюзнай пярвічцы юрыдычны адрас — гэта неабходна для рэгістрацыі арганізацыі. «Адказ мы павінны атрымаць на працягу 10 дзён, гэта значыць да канца гэтага тыдня. У тэлефоннай размове дырэктар спасылаўся на тое, што такое рашэнне павінен прымаць не ён, а ўласнік прадпрыемства, гэта значыць Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва. Будзем чакаць афіцыйны адказ, а затым, магчыма, звяртацца ў міністэрства», — сказаў Зімін.

27 снежня, паводле інфармацыі лідара БНП, на прадпрыемстве адбылося сумеснае пасяджэнне прафсаюзнага камітэта і адміністрацыі. «Сёння мне паказалі іх сумеснае рашэнне — там восьмым пунктам значыцца ўказанне членам прафкама і кіраўнікам аддзелаў прапрацаваць заяўкі аб выхадзе з прафсаюза і правесці гутаркі аб ролі незалежных прафсаюзаў у дэстабілізацыі становішча на прадпрыемстве», — расказаў Зімін.

РУВП «Граніт» з'яўляецца горадаўтваральным прадпрыемствам у Мікашэвічах і адным з найбуйнейшых у Еўропе па здабычы і перапрацоўцы цвёрдых горных парод.

ПРАГНОЗЫ




# МОЖНА ТРЫВАЦЬ

Вольга ХВОІН

**Электаральны рэйтынг Аляксандра Лукашэнкі ў верасні 2011 года дасягнуў гістарычнага мінімуму ў 20,5%. Але ў снежні вырас да 24,9%. Сацыёлагі тлумачаць гэта «негатыўнай адаптацыяй» беларусаў да сітуацыі, што мае месца ў краіне. На восень 2010 года апазіцыйныя сілы ўскладалі пэўны спадзеў — эканоміка ляснулася, народ у гневе, рэжыму канец. Але, як выявілася, няма мяжы беларускаму цярпенню. Ці ўсё ж ёсць?**

Рост рэйтынгу Аляксандра Лукашэнкі на 5% — гэта вынік снежаньскага апытання Незалежнага інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД). Сацыёлагі таксама зафіксавалі павелічэнне з 24,5% да 31,2% ліку тых, хто давярае прэзідэнту. Колькасць рэспандэнтаў, якія не давяраюць кіраўніку дзяржавы, адпаведна, паменшылася з 62% да 54,5%.

Колькасць тых, хто лічыць, што сітуацыя ў Беларусі ў цэлым развіваецца «ў няправільным кірунку», за чацвёрты квартал 2011 года паменшылася з 68,5% да 55,7%. Грамадзян, паводле меркавання якіх сітуацыя развіваецца «ў правільным кірунку», наадварот, стала больш — 25,6% (было 17%). Колькасць тых, хто лічыць вінаватым у цяперашнім крызісе ў Беларусі кіраўніка дзяржавы, скарацілася з 61,2% да 53,7%. Пры гэтым «віна» ўрада ўзрасла з 41,3% да 44,6%, парламента — з 11,9% да 19,5%.

«Я магу гаварыць аб тым, што бачу. І бачу я наступнае: у верасні рэйтынг Лукашэнкі быў 20%, гэтаму папярэднічалі не надта прыемныя падзеі ў фінансавай сферы. Цяпер адбылася некатарая стабілізацыя, найперш, дзякуючы расійскай дапамозе. Расія нас зноў узяла на ўтрыманне, і ў значнай частцы людзей ёсць спадзеў, што мы ўжо выкараскаліся, — гаворыць адзін з экспертаў НІСЭПД Аляксандр Сасноў. — Беларусы ўвогуле ў сваёй большасці жывуць адным днём — была б чарка ды шкварка, і вайны б не было. Рэйтынг Лукашэнкі добра паказвае, што адбываецца. Калі ўсё ж паглядзець трохі наперад, то ў выпадку, калі вонкавай фінансавай дапамогі не будзе, гэта выкліча незадавальненне ў насельніцтва. Галоўнае вось што: людзі зразумелі, што ў Беларусі за ўсё адказвае адна асоба. Таму любая падзея ў краіне звязваецца толькі з ім. І так будзе надалей».

Сацыёлагі НІСЭПД адзначаюць: лік тых, хто чакае паляпшэння жыцця ў Беларусі пасля сыходу Лукашэнкі з пасады прэзідэнта, па-ранейшаму перавышае колькасць тых, хто чакае пагаршэння (31,7% супраць 21,5%). Тых, хто лічыць, што жыццё застанецца такім жа, стала менш — 26,9% (было 34,8%). 31,3% апытаных мяркуюць, што Лукашэнка разумее праблемы і клопаты такіх людзей, як яны самі, у той час 52% рэспандэнтаў з гэтым не згодныя.

На пытанне «Калі б Вы ведалі чалавека, які мог бы паспяхова канкураваць з Лукашэнкам на наступных прэзідэнцкіх выбарах, то прагаласавалі б за яго ці за Лукашэнку?» большая частка рэспандэнтаў (44,6%) адказалі, што прагаласавалі б за такога кандыдата. 21,7% — аддалі б свае галасы Лукашэнку, а 33,4% — пакуль не ведаюць і вызначыліся б «па абставінах».

Разам з тым 81,5% беларусаў лічаць, што нацыянальная эканоміка знаходзіцца ў крызісе (у верасні такіх было 87,6%). 59,8% рэспандэнтаў падчас апытання заявілі, што іх матэрыяльнае становішча за апошнія тры месяцы пагоршылася (у верасні — 73,7%). Пагаршэння сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне ў найбліжэйшыя гады чакаюць 45% апытаных (у верасні — 52,7%).

Лік тых, хто мяркуе, што іх становішча за гэты час палепшылася, вырас на 2%, а тых, хто ўжо без трывогі глядзіць у будучыню, — на 4,2%. Адной з прычын гэтага, мяркуюць прадстаўнікі НІСЭПД, стаў характэрны для беларусаў механізм «негатыўнай адаптацыі».

Сацыёлагі адзначаюць: «Некаторае паляпшэнне матэрыяльнага становішча ў спалучэнні з нявер'ем у магчымасць кардынальных перамен абумовілі зніжэнне пратэстнага патэнцыялу ў грамадстве». Так, колькасць тых, хто лічыць сябе ў апазіцыі да цяперашняй улады, за тры месяцы зменшылася з 28,3% да 22,6%. Колькасць рэспандэнтаў, якія ў той ці іншай ступені падтрымліваюць людзей, што публічна пратэстуюць супраць дзеянняў улад, амаль такая ж, як і тых, хто не падтрымлівае, — 43,7% супраць 40,1%.

Ступень гатоўнасці да публічных дзеянняў для выказвання свайго меркавання (мітынгі, дэманстрацыі, забастоўкі, галадоўкі, узброеная барацьба) застаецца на ранейшым узроўні: менш як 9% ужо ўдзельнічалі ў іх і прыкладна 20% выказалі гатоўнасць да ўдзелу.

Разам з тым у вулічных акцыях апазіцыі, якія ладзіліся ў краіне восенню (Народныя сходы) удзельнічала мізэрная колькасць людзей. Канешне, гэта можна патлумачыць кепскай арганізацыяй, запалохваннем з боку ўладаў і г. д. Але падчас прэзідэнцкіх выбараў у 2006 і 2011 гадах на вуліцу з пратэстам выходзіла непараўнальна большая колькасць людзей, чым звычайна збіраюць вулічныя акцыі апазіцыі. Атрымліваецца замкнёнае кола незадаволенасці і нявер'я ў магчымасць пераменаў. «Ад жадання нешта рабіць да самой справы — вялікая дыстанцыя. Каля на вуліцу з пратэстам абяцаюць выйсці 3%, то выйдуць 0,03%, — гаворыць адзін з экспертаў НІСЭПД Аляксандр Сасноў. — Дзе тая мяжа трывання — нікому не вядома. Певень, які мусіць клюнуць, яшчэ не прыйшоў. На пачатку мінулага года эксперты папярэджвалі, што ніякіх выхадаў на вуліцу не будзе, але некаторыя лідары апазіцыі надзелі ружовыя акуляры і крычаць: вось-вось!»

Аляксандр Сасноў перакананы, што гэтыя паказчыкі сацыяльнай думкі адлюстроўваюць не ментальнасць «памяркоўны беларусаў», а выбудаваную гадамі сітуацыю. «Большасць хацела, каб за іх вырашылі ўсе пытанні. Так і атрымалася. Ёсць толькі невялікая частка людзей, якія б хацелі сваімі сіламі нешта рабіць і на нешта ўплываць. Гэтую меншасць лёгка прыдушыць, што ўлада і лёгка зрабіла. Пасіўнасць грамадства — гэта не ментальнасць, а тыя абставіны, якія стварыла купка людзей са згоды маўклівай большасці, прысасаўшыся да дзяржаўнага карыта, ад якога цяпер іх і не адагнаць. А думка наконт ментальнасці памылковая! Паглядзіце на Карэю — некалі ментальнасць была адна, а цяпер ёсць дзве розныя дзяржавы з рознымі людзьмі», — падкрэслівае сацыёлаг.

Аналітыкі НІСЭПД, каб не выстаўляць беларусаў рэкардсменамі па цярплівасці, прыводзяць словы расійскага палітолага В. Гельмана: «Як рэагуюць індывіды або цэлыя краіны на крызісы? Згодна з Альбертам Хіршманам, ёсць дзве асноўныя мадэлі: «пратэст»(voice) і «сыход» (exit). Пратэст — гэта актыўнае процідзеянне крызісным з'явам, спроба з імі змагацца. Прыкладам масавага пратэсту ў Расіі была мабілізацыя ў ходзе падзення савецкага рэжыму ў 1989–1991 гадах. Сыход — гэта выхад у нейкае іншае вымярэнне, у іншую прастору, эміграцыя, урэшце. Мне здаецца, наша краіна на шматлікія крызісныя з'явы 1990-х гадоў, ды і сёння, рэагуе, па большай частцы, сыходам. Але адзінага вектара сыходу няма. Ёсць розныя яго варыянты. Гэта — і лакалізацыя, замкнёнасць на мясцовых справах і мясцовым жыцці. Гэта і ўцёкі ад палітыкі, сыход з грамадскага жыцця ў спажывецтва, ва ўласны бізнэс, у віртуальныя сусветы».

Сацыёлагі НІСЭПД пішуць, што «адным з найбольш папулярных, а галоўнае, даступных спосабаў перамяшчэння ў «віртуальныя сусветы» для беларусаў з'яўляецца п'янства. Афіцыйная статыстыка гэтую выснову пацвярджае. У студзені-лістападзе 2011 года праз рознічную (гандлёвую) сетку рэалізавана алкагольных напояў і піва на 7,6 трыльёна рублёў, што ў рознічным тавараабароце гандлю складае 10,3 %. Гэта ў грашовым выражэнні, у абсалютным жа — прырост спажывання алкаголю за студзень-лістапад склаў 10,4%.

**ДЫНАМІКА АДКАЗАЎ НА ПЫТАННЕ: «ЯК ВЫ ЛІЧЫЦЕ, ЯКОЕ З ПРЫВЕДЗЕНЫХ НІЖЭЙ ВЫКАЗВАННЯЎ БОЛЬШ АДПАВЯДАЕ СІТУАЦЫІ, ШТО СКЛАЛАСЯ?»,%**

| Варыянт адказу | 08'01 | 04'02 | 12'11 |
|---|---|---|---|
| Усё не так дрэнна, і можна жыць | 25,3 | 17,2 | 15,6 |
| Жыць цяжка, але можна трываць | 54,2 | 57,0 | 52,2 |
| Трываць наша бядотнае становішча ўжо немагчыма | 18,5 | 24,0 | 29,7 |
| Не змаглі адказаць | 2,0 | 1,8 | 2,5 |

ПАРАДЫ

# СПЫНІЦЬ ГОНКУ ЛІЧБАЎ

**Еўразійскі банк развіцця (ЕАБР) настойліва рэкамендуе ўладам Беларусі «значна абмежаваць унутраны попыт». Пра гэта гаворыцца ў ацэнцы справаздачы Міністэрства фінансаў Беларусі аб выкананні ўмоў 2-га транша Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС.**

У выніку працягвання ў 2011 годзе палітыкі празмернага стымулявання ўнутранага попыту да гэтага часу не ўдалося вырашыць ключавую праблему эканомікі Беларусі — крытычна высокі дэфіцыт рахунку бягучых аперацый. Гэта выклікала трохзначную інфляцыю і нарастанне праблем у банкаўскім сектары, піша інфармагенцтва БелаПАН.

У мэтах хутчэйшай стабілізацыі макраэканамічнай сітуацыі ЕАБР «настойліва рэкамендуе ўладам Беларусі значна абмежаваць унутраны попыт праз спыненне эмісійнага фінансавання дзяржаўных праграм і ўзмацненне жорсткасці грашова-крэдытнай палітыкі, у тым ліку праз павышэнне рэальных працэнтных ставак да станоўчага ўзроўню».

Як гаворыцца ў дакуменце, на фоне праблем з валютай у пачатку мінулага года інтэнсіўнае фінансаванне дзяржпраграм з эмісійных крыніц (7% ВУП за першыя пяць месяцаў) і значнае павелічэнне зарплаты справакавалі больш глыбокую, чым чакалася, дэвальвацыю беларускага рубля і імклівы рост цэн у эканоміцы. Спажывецкія цэны за 10 месяцаў узраслі на 89%, а кошты вытворцаў — больш чым у два разы. Як чакаецца, па выніках года індэкс спажывецкіх цэн перавысіць 120%.

Эмісійнае фінансаванне ў другім паўгоддзі некалькі замарудзілася — часткова дзякуючы спыненню мэтавага крэдытавання эканомікі з боку Нацбанка. «Тым не менш, за 9 месяцаў фінансаванне дзяржпраграм з эмісійных крыніц склала 10 трыльёнаў рублёў (5,3% ВУП), і працягваецца далей, ставячы пад пагрозу выдачу трэцяга траншу, па ўмовах якога аб'ём крэдытаў па дзяржпраграмах не павінен перавышаць 4% ВУП па выніках года», — сказана ў дакуменце.

Нягледзячы на некаторае паляпшэнне ў гандлі таварамі і паслугамі ў апошні час, дэфіцыт рахунку бягучых аперацый застаецца па-ранейшаму высокім. Калі ў 2010 годзе ён фінансаваўся прыватызацыйнымі паступленнямі, то ў бягучым годзе — назапашванем знешняй запазычанасці, выплата працэнтаў па якой, у сваю чаргу, прыводзіць да чарговага пагаршэння паказчыкаў у эканоміцы.

Узровень міжнародных рэзерваў пры гэтым застаецца «непрымальна нізкім і не перавышае 1,2 месяцы імпарту».

Робячы прагноз на 2012 год, кіраўнік аналітычнага цэнтра «Стратэгія» Леанід Заіка таксама засцерагаў урад Беларусі ад гонкі за паказчыкамі. Паводле яго слоў, уладам не варта арыентавацца на рост ВУП на ўзроўні 5,5%. «Лепш за ўсё, каб быў нулявы рост або нават падзенне ВУП на 5–7%», — зазначыў эканаміст.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ШТО КАЗАЎ ШАМІР МАКЕЮ?

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Год таму інтэрнэт абляцела караценькае паведамленне — журналіст скандальнага сайта «Wikileaks» Шамір запрошаны ў Адміністрацыю прэзідэнта да Уладзіміра Макея. Навошта? Падрабязнасці таемнай сустрэчы «НЧ» распавёў журналіст брытанскай газеты «The Guardian».**



Ісраэль Шамір

Журналіст Ісраэль Шамір — адзіны рускамоўны прадстаўнік праекту «Wikileaks» (сайт, што спецыялізуецца на публікацыях сакрэтнай інфармацыі з дыпламатычнай і вайсковай перапіскі). Рэпутацыя Шаміра не менш скандальная за сам сайт: габрэй расійскага паходжання, які супрацоўнічае з неанацысцкімі і антысеміцкімі арганізацыямі, адмаўляе Халакост, называе Андрэя Сахарава «шкадлівым сіяніцкім агентам» і лічыць, што габрэі павінны перайсці ў хрысціянства. За кнігу Шаміра «Кветкі Галілеі» яе французскі выдавец быў прысуджаны да 3-месячнага арышту і штрафу ў 23500 еўра па іску «Міжнароднай лігі па барацьбе з расізмам і антысемітызмам». Суд прызнаў, што кніга распальвае варожасць да габрэйскага народа. Ісраэль Шамір займаецца не толькі публіцыстыкай, але і грамадскай дзейнасцю — да прыкладу, удзельнічаў у канферэнцыях знакамітага расіста Дэвіда Дзюка «Сіянізм — пагроза сусветнай цывілізацыі» і Махмуда Ахмадзінеджада на тэму Халакосту.

Гэты адыёзны чалавек напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў мінулага года і прыехаў у Беларусь. У інтэрв'ю інфармацыйнаму агенцтву «Інтэрфакс» (яно адзінае з усіх СМІ было ў курсе сустрэчы Макея і Шаміра) журналіст распавёў: «Я сустракаўся з кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі як назіральнік, а не як прадстаўнік кагосьці. Мы гаварылі пра выбары. Мы не размаўлялі пра «Wikileaks». Ён сустракаўся са мной як з назіральнікам. Сустрэча цягнулася некалькі хвілінаў».

Журналіст славутай брытанскай газеты «The Guardian» Кэйпіл Камірэдзі лічыць, што Шамір здаў Адміністрацыі прэзідэнта інфармацыю (у прыватнасці, фінансавую) пра беларускую апазіцыю з базы дадзеных «Wikileaks», якая дагэтуль не была апублікаваная на сайце праекта. Камірэдзі прабыў некалькі дзён у Беларусі, праводзіў уласнае расследаванне візіту Шаміра, сустракаўся з людзьмі, што пацярпелі ад «зліву» інфармацыі. Кэйпіл Камірэдзі ласкава пагадзіўся адказаць на некалькі пытанняў газеты:

***— Кэйпіл, што дае падставы сцвярджаць, што Ісраэль Шамір прывозіў у Мінск сакрэтныя дэпешы з дыпламатычнай карэспандэнцыі амбасады ЗША?***

— Я маю тры прычыны так меркаваць. Па-першае, сам Аляксандр Лукашэнка на канферэнцыі, прысвечанай вынікам прэзідэнцкіх выбараў, заявіў, што хутка будзе апублікаванае так званае «Беларускае дасье «Wikileaks», якое выкрые здраднікаў (маецца на ўвазе апазіцыя). Па-другое, гэта сам Шамір, які ў выніковым артыкуле па сваёй вандроўцы ў Беларусь згадаў, што «Wikileaks» атрымала з амерыканскай скарбонкі шмат інфармацыі датычна беларускіх апазіцыянераў. Патрэцяе, гэта былыя супрацоўнікі «Wikileaks», якія адтуль сышлі на знак пратэсту супраць метадаў працы Шаміра.

***— Навошта Шаміру «зліваць» інфармацыю пра нашу апазіцыю?***

— Ісраэль Шамір і Джуліян Асанж (стваральнік «Wikileaks») — фанатыкі. Многія беларусы спадзяюцца займець дэмакратычную краіну з рынкавай эканомікай, дзе людзі могуць свабодна гандляваць. А Шамір і Асанж якраз і імкнуцца абрынуць падобныя сістэмы кіравання. У іх вачах, ЗША — гэта проста апагей такіх сістэмаў. Кожны, хто супрацьпастаўляе сябе Злучаным Штатам, — іх паплечнік. Любы, хто ўпадабае сістэму кіравання ЗША, — іх вораг. Парадокс ідэалогіі Асанжа і Шаміра ў тым, што яны самі абароненыя свабодамі, якімі іх забяспечвае дэмакратычная краіна. І яны ўласна гэтую краіну імкнуцца абрынуць. У гэтым сваім імкненні зруйнаваць капіталістычную сістэму ЗША, яны падстаўляюць пад пагрозу жыццё прадэмакратычных актывістаў у такіх аўтарытарных краінах, як Беларусь.

***— Такім чынам, дзейнасць Шаміра ў Беларусі — не ягоная прыватная ініцыятыва, а палітыка «Wikileaks»?***

— Шамір не мог прыехаць без згоды Асанжа. Зараз Асанж спрабуе адасобіцца ад Шаміра, але, паводле звестак былога супрацоўніка сайта Джэймса Бола, Шамір — адна з самых значных фігур «Wikileaks», і менавіта Асанж дазволіў яму весці справы з дыпламатычнай перапіскай па Беларусі. Як я казаў, антыдэмакратычная ідэалогія — гэта асноўны матыў Асанжа. Але ж «Wikileaks» і зарабляе грошы таксама. Джуліян Асанж імкнецца наладзіць продаж інфармацыі на аўкцыёнах паміж медыйнымі карпарацыямі. Можна дапусціць, што Шамір і «Wikileaks» атрымалі плату ад Лукашэнкі за прадстаўленыя дэпешы. Хто аплаціў авіяквіткі Шаміра? Хто аплаціў яму гатэль у Мінску? Гэтыя пытанні занадта важныя, каб іх ігнараваць.

Візіт Ісраэля Шаміра ў Беларусь зацікавіў буйную брытанскую праваабарончую арганізацыю «Індэкс цэнзуры». Арганізацыя даслала запыт у «Wikileaks» наконт афіцыйнага статуса ў праекце Ісраэля Шаміра і прасіла спраўдзіць, ці сапраўды журналіст прывёз у Беларусь раней не апублікаваныя дыпламатычныя дэпешы, у якой колькасці, і ці могуць праваабаронцы з імі азнаёміцца. Адказы прадстаўнікоў «Wikileaks» былі нешматслоўнымі. «У нас няма інфармацыі на гэты конт», — паведаміў адзін. А другі супрацоўнік праекта абмежаваўся кароткім: «Відавочна, гэта не даказана».

## «Міліцыі на вуліцах няма, а Лукашэнка свабодна ходзіць сярод грамадзянаў»

На закуску прапаную прачытаць некалькі ўрыўкаў з артыкула Ісраэля Шаміра «Мінскія выбары ў люстэрку «Wikileaks», напісанага па выніках супольнага з Макеем «назірання на выбарах»:

*«Вуліцы акуратныя і зручныя для пешаходаў, у невялічкіх кавярнях утульна палае агонь, на кожны столік — англійскія газеты. На галоўнай плошчы — вялізная і святочная ёлка, вакол якой заліты традыцыйны каток, і мілыя дзяўчаткі ў белых спадніўках і чырвоных шаліках катаюцца на каньках разам з прывабна апранутымі хлопчыкамі».*

*«Пройдзе шмат часу, перш чым вы заўважыце якога-небудзь міліцыянта, як правіла — звычайнага супрацоўніка ДАІ. Ніякіх прыкметаў паліцэйскай дзяржавы няма — ні таямнічых чорных машын, ні сакрэтнай цішыні, ні савецкай шэрасці».*

*«Брукаваныя чыстыя вуліцы напоўненыя людзьмі. Прэзідэнт Беларусі, якога большасць амерыканскіх чыноўнікаў называе «апошнім дыктатарам Еўропы», свабодна гуляе сярод сваіх грамадзян».*

*«Некаторых людзей матывуе долар, а не патрыятызм. Гэты празаходні натоўп, які можна лёгка пералічыць па пальцах, пратэстуе супраць выбару большасці. [...] Калі яны не могуць прывабіць людзей заходнім доларам, яны пачынаюць змагацца і дамагацца сваіх мэтаў сілаю».*

*«Беларусь уяўляе сабой цікавую паспяховую мадэль эканамічнага развіцця. Яна нагадвае свету, што мудры кіраўнік здольны захаваць краіну».*

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# ЭКАНОМІЯ НА ТУАЛЕТНАЙ ПАПЕРЫ



**Як паведамілі СМІ, урад Беларусі зацвердзіў пералік і аб'ёмы вытворчасці спажывецкіх тавараў, прызначаных для імпартазамяшчэння.**

Няма сэнсу прыводзіць гэты спіс цалкам, бо ён занадта вялікі. А памеры вытворчасці, мусіць, вызначаны мэтай, якую некалі дасягнула савецкая прамысловасць. Калі імпартная электроніка, адзенне і абутак прадаваліся для шырокіх мас амаль выключна ў камісіёнках, для вышэйшага сярэдняга класа — у крамах «Бярозка», а для наменклатуры — праз спецразмеркавальнік.

А ў шырокім гандлі панавала ўсё савецкае. Што самі пашылі, тое і насілі. У адпаведнай колькасці і адпаведнай якасці. Прынамсі, савецкая прамысловасць так і не змагла наладзіць вытворчасць джынсавай тканіны і самых папулярных у свеце нагавіц з яе. Хоць вытворчасць баваўны з кожным годам павялічвалася.

Нешта падобнае здарылася і балоневымі плашчамі ды курткамі. Паколькі лёгкая прамысловасць у планавай эканоміцы прынцыпова пазбаўлена магчымасці адпавядаць сусветнай модзе, то іх масавая вытворчасць пачалася тады, калі ва ўсім свеце ад гэтай тканіны ўжо адмовіліся. А нашы, выконваючы планы партыі, гналі «балонню» яшчэ дзве пяцігодкі.

Зразумела, што савецкія вытворцы ні на імгненне не прыпынялі барацьбу за якасць прадукцыі. І дасягалі на гэтай ніве значных поспехаў. Так і гаварылі: савецкае — значыць выдатнае. А ці магло быць інакш пры татальным імпартазамяшчэнні і адсутнасці канкурэнцыі сярод мясцовых вытворцаў? Прыкладам, якасць савецкіх легкавых аўто масавы спажывец змог адэкватна ацаніць толькі пасля напліву патрыманых іншамарак. Тое ж самае можна сказаць і ў дачыненні амаль да ўсіх астатніх спажывецкіх тавараў.

Пры адсутнасці канкурэнцыі з боку лепшых вытворцаў узоры спажывання вызначаюцца прынцыпам — бяры, што даюць. І як даюць. Прыкладам, селядцы, загорнутыя ў газетную паперу. Або нават у старыя канцылярскія бланкі, запоўненыя хімічнымі алоўкамі.

Навошта клапаціцца пра ўпакоўку, калі і так возьмуць.

Увогуле, праблема імпартазамяшчэння, як яе разумеюць зараз, гэта зусім ніякая не праблема. Дастаткова падвысіць мыты, зрабіць імпартныя тавары недаступнымі па коштах, і яна вырашаецца амаль імгненна. І радыкальна, як у той жа Паўночнай Карэі. Гэта краіна амаль што не мае спажывецкага імпарту. Яна прадае на знешніх рынках сыравіну і металы, а купляе нафту, вугаль, прамысловае абсталяванне і нейкую колькасць злакавых культур, каб не дапусціць перарастання перыядычнага ды хранічнага недаядання ў масавы і спустошальны голад. Памеры знешняга гандлю КНДР невялікія, прычым сальда заўсёды адмоўнае. Затое знешняя запазычанасць надта вялікая.

І ўсё гэта цягнецца гадамі, не маючы ніякіх эканамічных перспектыў. У рамках мадэлі, пабудаванай на ідэі чучхэ, ніякіх перамен да лепшага чакаць нельга.

У Беларусі прыкладна тыя ж беды. Яна хоць і прадае збольшага прадукцыю перапрацоўкі, але ж выкарыстоўвае нашмат больш сыравіны і рэсурсаў, чым можа зарабіць ад яе продажу. Галоўнай крыніцай адмоўнага знешнегандлёвага сальда ў нас з'яўляюцца прамежкавыя тавары (сыравіна, камплектуючыя і энерганосьбіты), якія выкарыстоўваюцца для вытворчасці прамысловай і сельскагаспадарчай прадукцыі. Што б мы ні рабілі, а яно так і застанецца. Нават калі мы цалкам у вытворчасці спажывецкіх тавараў пяройдзем на імпартазамяшчэнне, нафту, газ і металы ўсё роўна трэба будзе купляць.

Калі ж улічыць, што для наладжвання новых вытворчасцяў прадукцыі, роўнай па якасцям імпартнай, і нават лепшай, спатрэбяцца дадатковыя рэсурсы, то ніякай эканоміі не будзе. Што атрымаецца, якая на самай справе прадукцыя, невядома. Беларусаў яе можна змусіць купляць. А на знешніх рынках — жорсткая канкурэнцыя. Туды з таварамі пад не вядомымі нікому брэндамі не пойдзеш.

З улікам гэтых абставін (на самай справе, іх значна болей) праграму імпартазамяшчэння трэба ацэньваць як чарговы беларускі палітэканамічны анекдот. Пра «кіндэр-сюрпрызы» толькі для беларускіх дзетак, пра пракладкі толькі для беларускіх жанчын, пра туалетную паперу для паспалітага ўжывання, якая адпавядае ці нават пераўзыходзіць па якасці сусветныя ўзоры.

Дарэчы, у свабодным свеце на пітіфаксе часта робяць выявы вядомых сучасных палітыкаў. Уключна нават з прэзідэнтамі. Як кажуць, ім іхнія грошы не пахнуць. У нас да такой ступені лібералізму ніколі не дойдуць. Дык навошта гэты чарговы вэрхал, якія даўно з іроніяй успрымаецца насельніцтвам, змучаным бясконцай барацьбой за годнае чалавека існавання.

Зрэшты, кожны ўжо даўно разумее, што ўсё лепшае з пункту гледжання спажывецкага рынка ў нас з'явілася пад ціскам канкурэнцыі з боку імпартных тавараў. Каб тут дзейнічалі толькі адны правадыры з іх цмянымі ўяўленнямі пра тое, што дрэнна і што добра, мы б да гэтага часу нічога б не чулі ні пра ноўтбукі, ні пра лічбавую фотатэхніку, ні пра іншыя дробязі, якія робяць жыццё адносна камфортным.

▸ УЗГАДАЦЬ УСЁ

# КРЫЗІС 1992 ГОДА



Іван Юргевіч, першы старшыня Незалежнага прафсаюза гарнякоў Беларусі



Васіль Быкаў, Станіслаў Шушкевіч, Ніл Гілевіч. 1992 год

Алег НОВІКАЎ

**«Новы час» працягвае публікацыю хронікі незалежнай Беларусі. Сёняшні артыкул пра пачатак эканамічнага крызісу «ліхіх дзевяностых».**

«Сапраўдная дэмакратыя вартая чаго-небудзь, калі здольная перажыць зіму», — гэту фразу ахвотна цытавалі газеты напачатку 1992 года. З-за лібералізацыі цэн эканамічная сітуацыя ў краіне пагоршылася настолькі, што ніхто не здзівіўся, калі пазней, у красавіку, Станіслаў Шушкевіч публічна выказаў падзяку Богу за мяккую зіму.

На красавік 1992 года, адпаведна вынікам апытанням Інстытута сацыялогіі, 10,2 працэнта насельніцтва былі маральна гатовыя да таго, што ім давядзецца прадаць усё дзеля банальнага выжывання.

Рэакцыя на эканамічныя выклікі была розная.

Некаторых сапраўды ахапіла паніка. «Набыць на апошнія 180 рублёў кілаграм буженіны. Аб'есціся і памерці», — пісала ў студзені журналістка газеты «*Знамя Юности*». З улікам таго, што сярэдні заробак у краіне на снежань 1991 года складаў не больш за 600 рублёў, яе суіцыдальны парыў цалкам зразумелы.

Увогуле, газетны бізнес на пачатку гэтага года перажываў жахлівы час. У лепшым выпадку рэдакцыі прасілі падпісчыкаў даплаціць за падпіску. У горшым — змяншалі тыражы, перапынялі выхад ці наогул закрываліся. Цяперашні флагман афіцыёзу «*Советская Белоруссия*» нейк выйшла накладам у адзін экзэмпляр. Унікальны выпуск вывесілі як сценгазету.

Для шматлікіх грамадзян важным фактарам выжывання стала гуманітарная дапамога. «Народная газета» радавала чытачоў загалоўкамі: «У Мінску прыбавілася ежы. У ГУМ прыбыў новы караван гуманітарнай дапамогі з Германіі».

Некаторыя ветэраны вайны ўпарта адмаўляліся браць падачку ад імперыялістаў, тым больш ад заходніх немцаў.

Свядомая частка грамадства спрабавала супрацьстаяць падзенню жыццёвага ўзроўню праз сацыяльны пратэст. У авангардзе ішлі незалежныя прафсаюзы, адзін з якіх нават уключыў у свой статут пункт аб сваім праве на акупацыйны страйк — гэта значыць, на гвалтоўны захоп прадпрыемства. Нават афіцыйныя прафсаюзы пагражалі кабінету Кебіча вулічнымі акцыямі.

Але да сапраўднага класавага канфлікту ў 1992 годзе справа дайшла толькі ў Салігорску, дзе Незалежны прафсаюз гарнякоў (НПГ) і адміністрацыя Беларуськалія не дамовіліся наконт тарыфнага пагаднення. Канфлікт цягнуўся ўсю зіму і завяршыўся перамогай шахцёраў. Галоўны ўнёсак у перамогу зрабілі сямёра актывістаў, якія трымалі галадоўку непасрэдна ў фае офісу Беларуськалія. Даўжэй за ўсіх галадаў Іван Юргевіч (18 дзён). У выніку страйку шахцёры пачалі атрымліваць каласальныя ў параўнанні з іншымі беларусамі заробкі.

Другой пасля шахцёраў найбольш актыўнай сацыяльнай групай аказаліся вайскоўцы. «Распіл» арміі паміж краінамі СНД выклікаў у іх справядлівую заклапочанасць пра пенсіі і перспектывы. Акрамя таго, большасць афіцэраў Беларускай вайсковай акругі ў свядомасці былі савецкімі людзьмі, далёкімі ад праблематыкі беларускага дзяржаўнага будаўніцтва. Не дзіўна, што калі Саюз абароны вайскоўцаў пад кіраўніцтвам Сяргея Гайдукевіча абвясціў пра намер выйсці 11 сакавіка (дзень адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета) на плошчу Незалежнасці, некаторыя растлумачылі гэта як пралог вайсковага перавароту. Для такога кшталту інсінуацый была ўскосная падстава. Ультрапапулярны ў той час астролаг Павел Глоба заявіў, што ў 1992 годзе ў зоне СНД варта чакаць спробы путчу.

Аднак 11 сакавіка прагноз экстрасэнса не збыўся. Гайдукевіч і яго прыхільнікі ўстрымаліся ад маніфестацый. Хутка афіцэрскі корпус без гучных канфрантацый, як гэта было ў суседняй Украіне, прыняў прысягу на вернасць Рэспубліцы Беларусь. У гэтым, безумоўна, заслуга ўраду, які паабяцаў вайскоўцам стабільны сацыяльны пакет. Падчас сус-





трэчы прэм'ера з генералітэтам толькі адзін генерал заявіў, што не здрадзіць прысязе СССР.

За выключэннем карпаратыўных вылазак шахцёраў і вайскоўцаў, іншыя сацыяльныя пратэсты ў той час насілі або дэкларатыўны, або экзатычны характар. Так, лекары псіхіятрычнай бальніцы ў Гарадзішчы, што на Піншчыне, выказалі пагрозу выпусціць сваіх пацыентаў на волю, калі ім не падвысяць заробкі. Пажарныя ў Кобрыне заявілі, што да павышэння акладаў не будуць тушыць пажары на суб'ектах дзяржаўнай формы ўласнасці.

Нягледзячы на ўздым сацыяльнай актыўнасці, у большасці беларусы спрабавалі выжываць індывідуальна. Папулярным метадам стала спекуляцыя. Вядомая ў савецкі час песня «*С чего начинается Родина*» ў 1992 годзе атрымала новы адказ: «З польскіх памежных базараў».

У Польшчу ездзілі амаль усе і везлі амаль усё. Нават слугі народу не цураліся гэтага рамяства. Так, народны дэпутат Генадзь Н. на сваёй машыне спрабаваў выехаць па дыпламатычным пашпарце ў Польшчу, маючы з сабой: 3 дрэваапрацоўчых станка, 10 электрарухавікоў, 10 электрадрэляў, 5 зварачных трансфарматараў, 5 складных веласіпедаў, 4 генератары, 5 электрычных пілаў, і ў дадатак (навошта?) адзін хамут. Сам дэпутат перад памежнікамі апраўдваўся хваробай сына.

Дзе спекулянты — там і рэкет. Практыка абірання злачынцамі дробных прадпрымальнікаў стала настолькі масавай, што кааператары ў той год нават выпусцілі «Пасведчанне рэкеціра». Дакумент каштаваў каля 200 рублёў.

Думаецца, што другім па папулярнасці сродкам выжывання пасля спекуляцыі стаў крадзеж каляровых металаў, якія ператварыліся ў своеасаблівую валюту. Так, у Салігорску злачынцы шантажавалі нейкага прадпрымальніка, патрабуючы ад яго не грошы, а дзве тоны медзі. Попыт пашырыўся і на жалеза. На станцыі «Беларусь» злавілі злодзея — супрацоўніка санаторыя «Крыніца», які здолеў скрасці пяць чыгуначных рэек.

З'явіліся і іншыя арыгінальныя спосабы папаўнення кішэні. Напачатку 1992 года прэса раіла карыстацца ласцікам пры набыцці долараў. Аказваецца, некаторыя спецы дамалёўвалі валасы на выяве прэзідэнта Вашынгтона (на купюры ў адзін долар), каб атрымалася фізіяномія, падобная на партрэт прэзідэнта Франкліна, які змешчаны на банкноце ў 50 долараў.

Некаторым фокусам тагачасных прайдзісветаў напэўна пазайздросціў бы сам Астап Бэндэр. Так, спадарыня А. Шульга вырашыла зарэгістравацца свой шлюб у трох ЗАГСах. Разлік быў просты: па закону ў кожным ЗАГСе маладым выдаваліся талоны на дэфіцытныя тавары.

Дарэчы, талоны, за якімі ганялася Шульга, дапамагалі не заўсёды. У навагоднім выпуску «Вожыка» была надрукаваная актуальная гумарэска пра Дзеда Мароза, што прыходзіць у нейкую сярэднестатыстычную беларускую сям'ю, чальцы якой просяць чараўніка атаварыць талоны на цукар і школьныя сшыткі за кастрычнік.

Праблема, як атаварыць талоны, дасягнула свайго апагею ўвесну, калі пачаўся цукровы дэфіцыт. Там-сям на гэтай глебе нават узнікалі вулічныя беспарадкі. Так, у чэрвені чарга за цукрам на сталічнай вуліцы Арлоўскай перакрыла транспартны рух. Нават выкліканы спецназ аказаўся бяссільны. Давялося мясцовым уладам завезці ў краму дэфіцытны тавар.

Талоны хадзілі паралельна з купонамі (свайго роду мясцовыя грошы), якія з'явіліся менавіта 1 студзеня 1992 года. Цяпер, каб набыць большасць спажывецкіх тавараў, савецкіх рублёў было недастаткова. Трэба было прад'явіць прадаўцу купоны на эквівалентную суму. Такім чынам урад збіраўся абараніць унутраны рынак ад інтэрвенцый спекулянтаў з суседніх рэспублік.

Мера мела кароткачасовы эфект. У першыя дні новага года сапраўды адчуваўся дэфіцыт на купоны. Узнік чорны рынак, дзе ліст купонаў на сто рублёў можна было прадаць за 65 рублёў. На гэтым галоўным чынам нажываліся студэнты. Міліцыя, якая затрымлівала іх на Камароўцы, не ведала, што рабіць. Адзіны артыкул, які можна было прад'явіць, — валютныя спекуляцыі. Але купоны з цяжкасцю падпадалі пад вызначэнне «валюта».

Галоўнымі ахвярамі рэформы з купонамі былі звычайныя турысты-замежнікі. Адным з іх аказаўся тады яшчэ малавядомы артыст Філіп Кіркораў. Падчас сваіх гастроляў у Мінску ў студзені 1992 года ён паскардзіўся аўдыторыі, што не мае тутэйшых купонаў і нічога не можа набыць у крамах. Публіка ў партэры эмацыйна адрэагавала на словы куміра. Напрыканцы канцэрту на сцэну перадалі не толькі букеты кветак, але і цэлыя лісты купонаў.

У выніку Беларусь хутка паўтарыла шлях Украіны, дзе купоны былі ўведзеныя годам раней. Паколькі для шмат каго продаж купонаў налева стаў дадатковай крыніцай даходаў, іх курс на чорным рынку абрынуўся да смешнага. Ніякай эфектыўнай абаронай айчыннага рынку купоны не сталі.

Ужо 21 лютага газета «*Семь дней*» апублікавала выявы будучых так званых «шматразовых купонаў» — правобразу нацыянальных грошай. Гэта былі тыя самыя славутыя «зайчыкі». Дарэчы, на той час іх ніхто не лічыў за канчатковы варыянт беларускай валюты, наконт назвы якой у прэсе ішла гарачая дыскусія. Акрамя талераў прапаноўваліся назвы — «менкі», «белы» або «беларты».

Нават калі ў маі «зайчыкамі» (іх таксама называлі «шушыкі» і «мульцікі») пачалі выдаваць частку заробку, стаўленне да іх было не вельмі сур'ёзнае. Гэта стала прычынай трагедыі ў сям'і аднаго пенсіянера з Пухавічаў. Малыя ўнукі, пабачыўшы новыя грошы, вырашылі, што гэта нейкія забаўкі. Пакуль дзеда не было дома, яны акуратна выразалі зайцаў і валкоў і павесілі іх на сценах. Можна ўявіць рэакцыю старога, калі ён вярнуўся.

Увосень стала зразумела, што пазбегнуць увядзення сваёй валюты немагчыма. Літва і Украіна сінхронна адмовіліся ад савецкіх рублёў, што пагражала выкідам рублёвай масы на беларускі рынак. З 10 лістапада ўсе прадуктовыя тавары пачалі прадавацца выключна за «зайчыкі» — за беларускія рублі. Усе іншыя варыянты назвы Кебіч на той час ужо адкінуў. Беларускі рубель стаў практычна адзіным прызнаным грашовым сродкам у краіне.

Лёс вушастага з самага пачатку стаўся сумным. Хаця Кебіч і абяцаў, што курс «зайчыка» да расійскага рубля будзе складаць 60–70 капеек, першыя ж банкаўскія таргі аспрэчылі яго аптымізм. На снежань 1992 года курс «зайчыка» складаў 1,15 за расійскі рубель. І гэта быў толькі пачатак.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 9 СТУДЗЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК



**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.10** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Камедыя «Ты зверху, я знізу» (Расія).
**12.10** Сямейная камедыя «Помста пухнатых» (ЗША).
**13.45** Мультфільм.
**14.00** Дак. фільм «Зорнае жыццё» (Украіна).
**15.10, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.25** Культурныя людзі.
**15.55** Да цешчы на бліны.
**16.25** Тэлефільм АТН «Bавy Cup. Казка пад Каляды».
**16.55** Серыял «Шырокая рака».
**17.50** Дэтэктыўная меладрама «Тонкая грань» (Расія).
**18.45, 00.50** Зона Х.
**19.30** Арэна.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.00** Дзень спорту.
**21.50** Камандзіроўка.
**22.05** «Песня года-2011».
**23.30** Крымінальны баявік «Наўпрост» (Вялікабрытанія).



**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05, 13.05** Навіны спорту.
**11.10** Мультфільм.
**11.30** Камедыя «На кручку».
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Камедыя «Неверагодныя прыгоды італьянцаў у Расіі».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.55** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Не плач, Аргентына!».
**22.00** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**23.05** «Лёс на выбар».
**00.05** «След».
**00.45** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** Прэм'ера: «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Гарачы лёд».
**13.10** «Далёкія сваякі».
**13.50** «Студэнты». Гумарыстычны серыял.
**14.45** Фільм «Са святамі нішто не параўнаецца». ЗША, 2008 г.
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.20** «Мiншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.25** Фільм «Гарпастум». Расія, 2005 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Прафесійны бокс».



**07.00** Навіны рэгіёна (Брэст).
**07.10** «Ранішні эспрэса» (Брэст).
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд» (Расія-Украіна).
**09.50** Ясі і худзей.
**10.20** Навіны надвор'я.
**10.50** Жансавет.
**11.20** Кінаспробы.
**11.50** Школа рамонту.
**12.45** Камедыя «Сардэчна запрашаем, або Суседзям уваход забаронены» (ЗША).
**14.25** Серыял «Маргоша» (Расія).
**16.10** Пазакласная гадзіна.
**16.30** Нянудны глобус.
**16.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**17.25** Прэм'ера. Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія). 1-я серыя.
**17.55** Навіны рэгіёна.
**18.10** «Край з Міколам Пракаповічам».
**18.25** «Брэст і берасцейцы». (Брэст).
**18.35** «Небяспечная зона». (Брэст).
**18.50** Тэлегазета (Брэст).
**18.55** Хакей. КХЛ.
**21.00** Калыханка.
**21.15** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.30** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралеве» (Расія). 1-я серыя.
**23.00** Авертайм.
**23.25** Серыял «Маргоша» (Расія).



**06.00, 10.35** «Даведнік».
**06.30** М/ф «Цырк».
**08.05** «Эксперыментатары».
**08.20** М/ф «Туфлі з залатымі спражкамі».
**11.05, 13.10** М/ф «Выгодны кантракт».
**13.00, 16.00, 19.00** Навіны Садружнасці.
**16.15, 19.15** Т/с «Адкрыйце, міліцыя!».
**23.50** М/ф «Повадырь».
**01.30** М/ф «Кррыш».
**04.20** М/ф «Дзяўчына з характарам».



**05.40** «Праспявана ў СССР».
**06.25** Фільм «Забіць вечар».
**08.00, 10.00, 13.00, 19.00** Сёння.
**08.15** Фільм «Двое».
**10.25** Фільм «Можна, я буду зваць цябе мамай?».
**12.10** Фільм «Калі наступіць заўтра».
**13.30** М/ф «Калі наступіць заўтра».
**19.25** Дэтэктыў «Павуцінне-4».
**23.00** Фільм «Жыў-быў дзед».
**00.55** «Таямнічая Расія».
**01.45** «Пара Піначэтаў».
**02.20** «Масквічы». Тэлевізійная камедыя.
**03.00** М/ф «З каханнем з пекла».
**05.10** Серыял «2, 5 чалавекі».



**10.30** Ралі. Дакар. Дзень адпачынку.
**11.15** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Тур дэ Скі. Мужчыны. 10 км вольным ходам.
**12.15** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Тур дэ Скі. Жанчыны. 9 км вольным ходам.
**13.00** Біятлон. Кубак свету. Мужчыны. Мас-старт. Оберхоф (Германія).
**13.45** Біятлон. Кубак свету. Жанчыны. Мас-старт. Оберхоф (Германія).
**13.30** Снукер. Турнір PTC (Players Tour Championship). Германія. Дзень 3.
**16.00** Дартс. Чэмпіянат свету. Дзень 2.
**19.30** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Тур дэ Скі. Жанчыны. 9 км вольным ходам.
**20.15** Біятлон. Кубак свету. Мужчыны. Мас-старт. Оберхоф (Германія).
**21.00** Футбол. Цырымонія ўручэння Залатога мяча ФІФА. Цюрых (Швейцарыя).
**22.00** Футбол. Часопіс.
**22.15** Ралі. Ралі рэйд. Дакар. Этап 8.
**22.45** Вось дык так!!!
**23.00** Пра рэстлінг. Агляд WWE.
**23.30** Пра рэстлінг. Vintage Collection. ЗША.
**00.30** Баявыя мастацтвы. Байцоўскі клуб.
**01.00** Ралі. Ралі рэйд. Дакар. Этап 8.
**01.45** Дартс. Чэмпіянат свету. Дзень 2.
**02.45** Ралі. Ралі рэйд. Дакар. Этап 8.




**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40** Зона «Свабоды».
**08.10** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 8 серыя.
**08.55** «Тутэйшыя», тэлеспектакль: 1 серыя.
**09.45** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**10.00** «Агнём і мячом», серыял: 4 серыя.
**10.55** ПраСвет.
**11.20** «Таямніцы Ватыкану», дакументальны серыял: 4 серыя.
**11.45** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**12.20** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**12.50** «Тутэйшыя», тэлеспектакль: 1 серыя.
**13.40** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**14.00** «Ноч святога Мікалая», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**14.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**15.05** «Таямніцы Ватыкану», дакументальны серыял: 4 серыя.
**15.35** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**16.05** «Агнём і мячом», серыял: 4 серыя.
**15.00** «Таямніца Сагалі», серыял: 13 серыя.
**17.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Агнём і мячом», серыял: 4 серыя.
**19.00** «Зямля ў палоне», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Еўропа сёння.
**20.25** Вагон.
**20.30** «Мільянер з лесу», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**22.00** Фільматэка майстроў: «Русалка», маст. фільм, 2007 г., Расія.
**23.40** Аб'ектыў.
**00.05** Гарачы каментар.

## 10 СТУДЗЕНЯ, АЎТОРАК



**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.30** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**10.10** Серыял «Шырокая рака».
**11.05** Меладрама «Тонкая грань» (Расія).
**12.10** Арэна.
**12.35** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**12.50** «Навагодні тыдзень». Канцэрт.
**13.50** Мультфільм.
**14.00** «Толькі жанчына ведае». Ток-шоў.
**15.10, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.25** Камандзіроўка.
**15.40** Скрынка перадач.
**16.10** Эпоха. Падзеі і людзі.
**16.55** Серыял «Шырокая рака».
**17.50** Селадрама «Тонкая грань» (Расія).
**18.45, 01.20** Зона Х.
**19.30** Сфера інтарэсаў.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.30** Дзень спорту.
**21.50** Урачыстае ўручэнне прэмій «За духоўнае адраджэнне».
**23.50** Крымінальны баявік «Перавознік» (Францыя).



**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Шматсерыйны фільм «Не плач, Аргентына!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Камедыя «Навагодні дэтэктыў».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Не плач, Аргентына!».
**22.00** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**23.05** «Народная медыцына. Выпрабаванае на сабе».
**00.05** «След».
**00.45** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мiншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** Фільм «Гарпастум». Расія, 2005 г.
**10.40** Прэм'ера: «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты». Гумарыстычны серыял.
**14.40** Фільм «Жыццё, або нешта накшталт таго». ЗША, 2002 г.
**16.50** Прэм'ера: «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мiншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.25** «Знахар». Серыял.
**21.25** «Паляванне на Ізюбра». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**23.35** «Аўтапанарама».
**00.00** «NEXT». Серыял.
**00.50** «Сакрэтныя тэрыторыі».



**07.00** Навіны рэгіёна (Брэст).
**07.10** «Ранішні эспрэса» (Брэст).
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**09.55** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**10.35** Авертайм.
**11.05** Страсці па культуры.
**11.45** Драма «Рагін» (Расія).
**13.20** «Дванаццаць месяцаў». Мультфільм.
**14.20** Серыял «Маргоша» (Расія).
**16.05** Пазакласная гадзіна.
**16.25** Нянудны глобус.
**16.50** Цела чалавека.
**17.20** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія). 2-я серыя.
**17.55** Навіны рэгіёна. (Брэст).
**18.15** Здароўе. (Брэст).
**18.50** Тэлегазета. (Брэст).
**18.55** Камедыя «Ашалелыя скачкі» (ЗША).
**21.00** Калыханка.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.30** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія). 2-я серыя.
**23.00** Спорт-кадр.
**23.40** Серыял «Маргоша» (Расія).



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 16.00, 18.00, 19.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00, 02.00** Навіны Садружнасці.
**06.05** «Простая мова».
**06.20** Д/с «Дом з гісторыяй».
**07.05** М/с «Апошні з магікан».
**07.40** «Цік - так».
**08.05, 09.05, 03.40** Тэлесерыял «Д'ябал з Арлі».
**10.05** «Агульны рынак».
**10.25** «Агульны інтарэс».
**11.05, 12.05** М/ф «Кодавая назва «Паўднёвы гром».
**13.20** «Цюркі Расіі. Рэспубліка Тува».
**14.20** М/с «Прыгоды майстра Кун-фу».
**14.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**15.30** Тэлесерыял «Дзядуля маёй мары».
**16.25** Тэлесерыял «Агонь кахання».
**18.05, 00.05** Ток - шоў «Слова за слова».
**19.25** «Акцэнты».
**19.40** Тэлесерыял «Аляксандраўскі сад».
**21.45** Праграма «Кыргызстан у асобах.
**22.20, 05.25** «Дыяспары».
**23.05** Д/с «І ты, Брут? Сусветная гісторыя здрад».
**01.05, 02.05** Т/с «Нашы суседзі».
**03.00** «Усюды жыццё».



**05.55** «НТБ раніцай».
**08.30** Серыял «Марскія д'яблы».
**09.30, 15.30, 18.30** Надзвычайнае здарэнне.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Увага: вышук!».
**10.55** «Да суду».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.25** Серыял «Муж і жонка».
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем».
**19.30** Дэтэктыў «Павуцінне».
**21.30** Серыял «Святаяннік».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.35** «Судовы дэтэктыў».
**00.40** Серыял «Дэтэктыў Раш».
**01.35** «Таямнічая Расія».
**02.20** «Пара Піначэтаў».
**02.55** «Масквічы». Тэлевізійная камедыя.
**03.40** Серыял «Бягляк».
**05.10** Серыял «2, 5 чалавекі».



**10.30** Ралі. Ралі рэйд. Дакар. Этап 8.
**11.15, 18.00, 02.00** Тэніс. Турнір WTA. Сіднэй (Аўстралія). 1/8 фіналу.
**13.45, 00.30** Вось дык так!!!
**13.45** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Тур дэ Скі. Мужчыны. 10 км вольным ходам.
**14.45** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Тур дэ Скі. Жанчыны. 9 км вольным ходам.
**16.30** Біятлон. Кубак свету. Жанчыны. Мас-старт. Оберхоф (Германія).
**17.15** Біятлон. Кубак свету. Мужчыны. Мас-старт. Оберхоф (Германія).
**19.00** Снукер. Турнір PTC (Players Tour Championship). Германія. Дзень 3.
**20.30** Дартс. Чэмпіянат свету. Дзень 3.
**01.00** Аўтаспорт. Акадэмія GT. Часопіс.
**01.15, 02.45** Ралі. Ралі рэйд. Дакар. Этап 9.




**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Закаханы анёл», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**09.10** «Таямніца Сагалі», серыял: 13 серыя.
**09.35** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**10.05** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**10.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**10.55** «Мільянер з лесу», дак. фільм, 2010 г. Польшча.
**11.20** «Ранча», серыял: 20 серыя.
**12.10** «Таямніца Сагалі», серыял: 13 серыя.
**12.35** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.00** «Тутэйшыя», тэлеспектакль: 2 серыя.
**13.50** «Мільянер з лесу», дак. фільм, , 2010 г., Польшча.
**14.15** «Закаханы анёл», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**15.55** «Зямля ў палоне», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**16.25** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**17.00** «Мой родны горад», серыял: 16 серыя.
**17.25** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Арол», серыял: 24 серыя.
**19.00** Два на два (тэледыскусія).
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**20.40** Беларусы ў Польшчы.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**21.40** «Ратаўнікі», серыял: 2 серыя.
**22.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.55** «Euromaxx» (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**23.20** Аб'ектыў.
**23.45** Гарачы каментар.

## 13 студзеня, пятніца



**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.00** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).
**10.15** Меладраматычны серыял «Шырокая рака» (Расія- Украіна).
**11.10** Дэтэктыўная меладрама «Тонкая грань» (Расія). Заключная серыя.
**12.10** Сфера інтарэсаў.
**12.35** «Навагодні тыдзень». Канцэрт.
**13.35** Мультфільм.
**13.50** «Вялікая розніца». Навагодняе шоў.
**15.10, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.25** Актуальнае інтэрв'ю.
**15.40** Анімацыйны фільм «Мурашка Антц» (ЗША).
**17.05** Меладраматычны серыял «Шырокая рака» (Расія- Украіна). Заключныя серыі.
**19.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40, 02.15** Дзень спорту.
**21.50** «Песня года-2011».
**23.15** Песні для душы.



**06.00, 09.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсерыйны фільм.
**12.00** Шматсерыйны фільм «Не плач, Аргенціна!».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**19.00** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Усё, што нам трэба…» Шоў-праграма.
**22.15** Стары Новы год.
**01.55** Начныя навіны.



**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Знахар». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**09.55** «Добры дзень, доктар».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Прэм'ера: «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Студэнты». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «NEXT». Серыял.
**15.35** «Паляванне на Ізюбра». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Прэм'ера: «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Ток-шоў «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.35** Фільм «Бегляки». Францыя, 1986 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.30** «Дыскатэка 80-х».



**07.00** Навіны рэгіёна (брэст).
**07.10** «Ранішні эспрэса» (Брэст).
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**09.55** Ясі і худзей.
**10.25** Школа рамонту.
**11.20** Жансавет.
**11.50** Гаспадар.
**12.20** Страсці па культуры.
**13.00** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.50** Беларуская кухня.
**15.25** Пазакласная гадзіна.
**15.40** Нянудны глобус.
**16.10** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**17.55** Навіны рэгіёна (Брэст).
**18.10** Ток-шоў «Ёсць меркаванне!» (Брэст).
**18.20** «Постскрыптум». (Брэст).
**18.55** Хакей. КХЛ.
**21.00** Калыханка.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**22.15** Бітва экстрасэнсаў.
**23.10** «Стары год. шумныя праводзіны». Канцэртная шоў-праграма (Расія).
**01.15** Серыял «Маргоша».



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 16.00, 18.00, 19.00, 22.00, 01.00, 02.00** Навіны Садружнасці.
**06.05, 10.05** «Рэспубліка сёння».
**06.20** «Таямніцы манежа».
**07.05** М/с «Апошні з магікан».
**07.40** «Цік - так».
**08.05, 09.05, 03.40** Тэлесерыял «Анёл з Арлі».
**10.25** «Смачны свет. Кабардзінская кухня».
**11.05, 12.05** М/ф «Яшчэ да вайны».
**13.20** «Цюркі Расіі. Рэспубліка Татарстан».
**14.20** М/с «Прыгоды майстра Кун-фу».
**14.55** Т/с «Старшакласнікі».
**15.30** Т/с «Дзядуля маёй мары».
**16.25** Т/с «Агонь кахання».
**18.05** «Правілы жыцця».
**19.25** «Акцэнты».
**19.40, 05.25** «Зроблена ў СССР».
**20.10** М/ф «Ой, мароз, мароз!».
**22.20** «Неверагодная праўда аб зорках».
**23.20, 01.05** Канцэрт «Стары год, шумныя праводзіны».
**02.05** «Добрыя жарты».



**05.55** «НТБ раніцай».
**08.30** Вострасюжэтны серыял «Марскія д'яблы».
**09.30, 15.30, 18.30** Надзвычайнае здарэнне.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** Выратавальнікі.
**10.55** «Да суду».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.25** Серыял «Муж і жонка».
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем».
**19.30** Дэтэктыў «Павуцінне».
**21.30** Вострасюжэтны серыял «Святаяннік».
**23.10** «Вельмі Новы Год».
**03.05** «Пара Пінаечаў».
**03.45** «Масквічы». Тэлевізійная камедыя.
**04.25** Вострасюжэтны серыял «Бягляк».
**06.00** Серыял «2, 5 чалавекі».



**10.30** Вось дык так!!!
**10.45** Санкавы спорт. Кубак свету. Агляд.
**11.15** Біятлон. Кубак свету. Мужчыны. Індывідуальныя спаборніцтвы.
**12.30** Горныя лыжы. Кубак свету. Мужчыны. Хуткасны спуск/камбінацыя.
**13.00** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. Кваліфікацыя. HS 200.
**14.00** Біятлон. Кубак свету. Мужчыны. Індывідуальныя спаборніцтвы.
**16.30** Біятлон. Кубак свету. Жанчыны. Спрынт.
**17.45** Горныя лыжы. Кубак свету. Мужчыны. Слалам/камбінацыя.
**18.45** Тэніс. Турнір WTA. Сіднэй (Аўстралія). Фінал.
**20.00** Конны спорт. Скачкі. Гран-пры Мексікі. Агляд.
**20.30** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. Кваліфікацыя. HS 200.
**21.00** Ралі. Ралі рэйд. Дакар. Этап 12.
**21.30** Дартс. Чэмпіянат свету. Дзень 5.
**22.15** Ралі. Ралі рэйд. Дакар. Этап 12.
**22.45** Дартс. Чэмпіянат свету. 1/4 фіналу.
**01.00** Ралі. Ралі рэйд. Дакар. Этап 12.
**01.45** Аўтаспорт. Акадэмія GT. Часопіс.
**02.00** Біятлон. Кубак свету. Жанчыны. Спрынт.
**02.45** Ралі. Ралі рэйд. Дакар. Этап 12.
**03.30** Тэхнічны перапынак.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** Басанож па свеце.
**08.00** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 8 серыя.
**08.45** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.10** «Зорны пірат», тэлесерыял: 7 серыя.
**09.40** «Euromaxx» (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.05** «Браты-ворагі», дак. серыял: «Прафзвязаўскі дзеяч і інтэрнэт-бізнесовец».
**10.35** Форум (ток-шоў).
**11.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**11.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**12.10** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**12.35** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 3 серыя.
**13.20** «Euromaxx» (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.50** «Зорны пірат», тэлесерыял: 7 серыя.
**14.15** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 8 серыя.
**15.00** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**15.15** Рэпартэр.
**15.40** «Браты-ворагі», дак. серыял: «Прафзвязаўскі дзеяч і інтэрнэт-бізнесовец».
**16.15** Форум (ток-шоў).
**17.00** «Мікі Моль і Страшны Плашч», анімацыйны фільм: 3 серыя.
**17.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**17.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 3 серыя.
**18.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.55** «Апантаныя», дак. цыкл: 6 серыя.
**19.05** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Еўропа сёння.
**20.25** Невядомая Беларусь: «КПСС – прыгоннае права Савецкага Саюзу», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** ПраСвет.
**21.50** «Судовы выканаўца», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**23.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**23.30** Аб'ектыў.

## 14 студзеня, субота



**06.35** Існасць.
**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Ранішняя хваля.
**09.45** Скрынка перадач.
**10.15** Культурныя людзі.
**10.50** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**12.10** Лірычная камедыя «Дзяўчаты».
**14.00** Мультфільм.
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**16.00** Фантастычная камедыя «Мышынае паляванне» (ЗША).
**17.50** Адмысловы рэпартаж АТН «З каханнем да Венецыі».
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.15** Канцэрт.
**19.50** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**21.00** Панарама.
**21.45** Фантастычны баявік «Лара Крофт: раскрадальніца магільняў» (ЗША- Германія).
**23.30** Фантастычны баявік «Лара Крофт: раскрадальніца магільняў-2» (ЗША-Германія).
**01.25** Дзень спорту.



**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Разумніцы і разумнікі».
**11.50** Камедыя «Мая мама - нявеста».
**13.10** Камедыя «Карнавальная ноч-2, або 50 гадоў пасля».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Новы «Ералаш».
**16.45** Прэм'ера. Фільм «Усё, што нам трэба…» Беларусьфільм, 2011.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Фільм «Начны дазор».
**23.10** «Дзве зоркі».



**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Анфас».
**07.40** «Салдаты. Дзембельскі альбом». Серыял.
**09.30** «Я - вандроўца».
**09.50** «Чыстая праца».
**10.35** «Мінск і мінчане».
**11.10** Фільм «Бегляки». Францыя, 1986 г.
**12.50** «Прыгоды дылетанта».
**13.30** Фільм «Стары Новы год». СССР, 1980 г.
**16.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Навагодні Карагод».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Падшыванец». ЗША, 2003 г.
**22.05** Прэм'ера: «Вячэрні квартал-95».
**23.50** «Дыскатэка 80-х».



**07.45** Дабравест.
**08.10** Мір вашай хаце.
**08.20** «Стары год. шумныя праводзіны». Канцэртная шоў-праграма (Расія).
**10.20** Пра мастацтва.
**10.50** Тэлебарометр.
**10.55** Школа рамонту.
**11.45** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.15** Шоў «Інтуіцыя».
**13.10** Наперад у мінулае.
**13.40** Беларуская кухня.
**14.10** Камедыя «Зігзаг поспеху» (СССР).
**15.40** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**17.10** «Смех з дастаўкай на дом». Гумарыстычная праграма (Расія).
**17.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Чэлсі - Сандэрленд. Прамая трансляцыя.
**19.55** Бітва экстрасэнсаў.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Бітва экстрасэнсаў.
**22.10** Камедыя «Перажыць Каляды» (ЗША).
**23.50** Шоў «Інтуіцыя».
**00.40** Баявік «Сапраўднае каханне» (ЗША).



**06.00, 05.10** Дак. фільм «М. Швейцэр. Швейцэрава саната».
**06.50** «Даведнік».
**07.20** Мастацкі фільм «Бабулі напалам сказалі».
**08.55** Мультфільм «Прыгоды Мумі Троля».
**09.15** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**09.30** «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**09.45** «Эксперыментатары».
**10.00, 16.00** Навіны Садружнасці.
**10.10** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**10.40** «Формула поспеху».
**11.10** «Таямніцы манежа».
**11.40** Тэлесерыял «Восеньскі дэтэктыў».
**14.00** Дак. серыял «Доказы віны».
**15.00** «Правілы жыцця».
**16.10, 03.35** Мастацкі фільм «Новы Бай».
**18.00** Мастацкі фільм «Наступіць заўтра або не?».
**21.25** «Навіны Садружнасці. Культура».
**22.15** Мастацкі фільм «Шанхайская неспадзёўка».
**00.00** Мастацкі фільм «Падвойная ракіроўка».
**01.55** «Добрыя жарты».



**06.25** Фільм «Бамжыха».
**08.00, 10.00, 13.00, 19.00** Сёння.
**08.20** Латарэя «Залаты ключ».
**08.45** «Акадэмія прыгажосці».
**09.20** «Гатуем».
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** Кулінарны паядынак.
**12.00** Кватэрнае пытанне.
**13.20** Свая гульня.
**14.10** М/ф «Настаўнік у законе».
**16.05, 19.25** Вострасюжэтны серыял «Настаўнік у законе. Працяг».
**23.15** «Народ супраць шоў-бізнэсу». Спецпраект.
**00.20** Фільм «Парк Юрскага перыяду».
**02.45** «Пара Пінаечаў».
**03.20** «Масквічы». Тэлевізійная камедыя.
**04.05** Серыял «2, 5 чалавекі».



**10.30** Ралі. Ралі рэйд. Дакар. Этап 12.
**11.15** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. Кваліфікацыя. HS 200.
**12.15** Горныя лыжы. Кубак свету. Жанчыны. Хуткасны спуск.
**13.00** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. Кваліфікацыя. HS 200.
**13.30** Горныя лыжы. Кубак свету. Мужчыны. Хуткасны спуск.
**14.45** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 200.
**17.45** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Мужчыны/жанчыны. Мілан (Італія).
**18.15** Біятлон. Кубак свету. Мужчыны. Спрынт.
**19.30** Дартс. Чэмпіянат свету. 1/2 фіналу.
**22.00** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 200.
**23.00, 00.00** Баявыя мастацтвы. Байцоўскі клуб. КО.
**01.00** Ралі. Ралі рэйд. Дакар. Этап 13.
**01.45** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 200.
**03.15** Ралі. Ралі рэйд. Дакар. Этап 13.
**04.00** Тэхнічны перапынак.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 3 серыя.
**08.20** «Мікі Моль і Страшны Плашч», анімацыйны фільм: 3 серыя.
**08.50** Калыханка для самых маленькіх.
**09.15** Невядомая Беларусь: «КПСС – прыгоннае права Савецкага Саюзу», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**09.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.15** Хто ёсць кім?: «Сяржук Вітушка», рэпартаж.
**11.35** МакраФон: «Канцэрт Змітра Вайцюшкевіча ў тэатры «Буфо»»: ч. 1.
**12.05** «Мікі Моль і Страшны Плашч», анімацыйны фільм: 3 серыя.
**12.35** Калыханка для самых маленькіх.
**13.00** Невядомая Беларусь: «КПСС – прыгоннае права Савецкага Саюзу», дак фільм, 2011 г., Беларусь.
**13.30** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**14.50** «Судовы выканаўца», маст. фільм, 2005 г, Польшча.
**16.25** МакраФон: «Канцэрт Змітра Вайцюшкевіча ў тэатры «Буфо»»: ч. 1.
**17.00** «Доктар Марцін», серыял: 8 серыя.
**17.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Дэманстрацыя», дак. фільм, 1989 г., Польшча.
**19.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.20** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.05** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** «Забойства напярэдадні вясны», дак. фільм, Польшча–Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.40** Суботні сеанс: «25 цэнтаў», маст. фільм, 1995 г., ЗША.
**23.05** «Мент», дэтэктыўны серыял: 4 серыя.
**23.50** Аб'ектыў.

## 15 студзеня, нядзеля

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.55** Фантастычная камедыя «Мышынае паляванне» (ЗША).
**08.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Медычныя таямніцы.
**10.15** Да цешчы на бліны.
**10.50** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**12.10** Камедыя «Неверагодныя прыгоды італьянцаў у Расіі» (СССР).
**14.05** Мультфільм.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** Тэлефільм АТН «Ад Каленніка да Калінкавіч» цыклу «Зямля беларуская».
**15.45** Дак. серыял «У пошуках скарбаў».
**16.35** Сямейная камедыя «Доктар Дулітл» (ЗША).
**18.15** Суперлато.
**19.00** Выпадковая навагодняя сувязь.
**19.50** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна). Заключная серыя.
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**22.10** Рамантычная драма «Рамэа і Джульета» (Вялікабрытанія-Італія).

### Н

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** Фазэнда.
**11.45** Лірычная камедыя «Паненка-сялянка».
**13.40** «Клубу Вясёлых і Знаходлівых» - 50 гадоў! Юбілейны выпуск.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «20 лепшых песень года».
**18.20** Прэм'ера. Камедыя «Зайцаў, палі!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Фільм «Дзённы дазор».
**23.35** «Навагодні кактэйль».

### ТВ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.20** «Салдаты. Дзембельскі альбом». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.25** «Вялікі сняданак».
**11.05** Фільм «Падшыванец». ЗША, 2003 г.
**12.50** «Добры дзень, доктар».
**13.20** Фільм «Пакроўскія вароты». СССР, 1982 г. 2 серыі.
**15.45** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Прэм'ера. «Смех скрозь рогат». Канцэрт.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Аднакласнікі». ЗША, 2002 г.
**22.40** «Накаўт-шоў. Міжнародны турнір».
**23.50** Фільм «Кісларод». Расія, 2009 г.
**01.05** Фэст «Дыскатэка 80-х».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.40** Прыступкі Веры.
**08.00** Кожны мае права быць розным.
**08.25** Камедыя «Зігзаг поспеху» (СССР).
**09.50** «Смех з дастаўкай на дом». Гумарыстычная праграма (Расія).
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** Школа рамонту.
**11.35** «Вышэй за дах». Музычна-забаўляльная праграма.
**12.05** Шоў «Інтуіцыя».
**13.00** Фантастычная анімацыйная камедыя «Шрэк Трэці» (ЗША).
**14.40** Біятлон. Кубак свету. Гонка пераследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**15.45** Кінаспробы.
**16.25** Біятлон. Кубак свету. Гонка пераследу. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**17.10** Хакей. КХЛ.
**19.20** Камедыйны баявік «Таксі-2».
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.40** Камедыйная меладрама «Чаго жадаюць жанчыны» (ЗША).
**23.55** Гандбол. Адборачны турнір чэмпіянату свету. Беларусь - Румынія.
**01.25** Шоў «Інтуіцыя».

### МИР

**06.00** Дак. фільм «Вадзім Юсаў. Галоўны аператар».
**06.50** «Смачны свет. Кабардзінская кухня».
**07.20** Мультфільм «Страказа».
**09.15** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**09.30** «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**09.45** «Эксперыментатары».
**10.00, 16.00** Навіны Садружнасці.
**10.10** «Ведаем рускую».
**11.10** «Даведнік».
**11.40** Тэлесерыял «Восеньскі дэтэктыў».
**14.00** Д/с «Доказы віны».
**15.00, 02.35** «Правілы жыцця».
**16.10** Канцэрт Тамары Гвардцытэлі.
**17.30, 03.35** «Простыя лікі. Савецкае дзяцінства».
**18.00** Т/с «Каханне і іншыя дурасці».
**21.00** Выніковая праграма «Разам».
**22.00, 04.05** Мастацкі фільм «Куфар Марыі Медычы».
**23.45** «Паўночнікі».
**00.15** М/ф «1943. Сустрэча».

### НТВ

**05.15** Дзіцячая раніца на НТБ.
**06.20** Фільм «Бамжыха-2».
**08.00, 10.00, 13.00, 19.00** Сёння.
**08.15** «Рускае лата».
**08.45** Іх норавы.
**09.25** Ямо дома.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.55** «Развод па-руску».
**12.00** Дачны адказ.
**13.20** Свая гульня.
**14.10, 19.25** Вострасюжэтны серыял «Настаўнік у законе. Працяг».
**23.15** Фільм «Як дайсці да бібліятэкі?».
**01.05** Камедыя «Паліцыянт і Маляня».
**02.50** М/ф «Апошняя зіма».
**04.30** «Масквічы». Тэлевізійная камедыя.
**05.10** Серыял «2, 5 чалавекі».

### EUROSPORT

**10.30** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 200.
**11.00** Санкавы спорт. Кубак свету. Мужчыны. Оберхоф (Германія). Спроба 1.
**12.00** Горныя лыжы. Кубак свету. Мужчыны. Слалам. Спроба 1.
**13.00** Санкавы спорт. Кубак свету. Мужчыны. Оберхоф (Германія). Спроба 2.
**13.30** Горныя лыжы. Кубак свету. Жанчыны. Супер-гігант.
**13.45** Біятлон. Кубак свету. Жанчыны. Гонка пераследу.
**14.30** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Спрынт. Камандныя спаборніцтвы. Мілан (Італія).
**16.00** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 200.
**17.45** Лыжнае дваяборства. Кубак свету. Гонка па сістэме Гундэрсена.
**18.30** Біятлон. Кубак свету. Мужчыны. Гонка пераследу.
**19.15** Снукер. Мастэрс. Лондан (Вялікабрытанія). Дзень 1.
**21.00** Дартс. Чэмпіянат свету. Фінал.
**22.30** Снукер. Мастэрс. Лондан (Вялікабрытанія). Дзень 1.
**01.00** Ралі. Ралі рэйд. Дакар. Этап 14.
**01.45** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 200.
**03.00** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Аўстраліі. Турнір Вялікага шалома. Мельбурн (Аўстралія). Дзень 1.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды».
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 8 серыя.
**08.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.45** Калыханка для самых маленькіх.
**09.10** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**09.45** «Апантаныя», дак. цыкл: 6 серыя.
**09.55** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**10.10** Два на два (тэледыскусія).
**10.35** Форум (ток-шоу).
**11.20** «Дэманстрацыя», дак. фільм, 1989 г., Польшча.
**12.20** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**12.50** «Верная», дак. фільм, 2008 г., Расія.
**13.15** Калыханка для самых маленькіх.
**13.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**14.05** «25 цэнтаў», маст. фільм, 1995 г., ЗША.
**15.30** «Дэманстрацыя», дак. фільм, 1989 г., Польшча.
**16.30** «Забойства напярэдадні вясны», дак. фільм, Польшча–Беларусь.
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.15** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 9 серыя.
**18.00** Прыватная калекцыя.
**18.35** Два на два (тэледыскусія).
**19.00** «Таямніцы Ватыкану», дакументальны серыял: 5 серыя.
**19.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.40** Калыханка для самых маленькіх.
**19.50** Дакументальная гадзіна: «Лонданская крама», дак. фільм, 2006 г., Германія.
**20.20** Дакументальная гадзіна: «Крама – «Ц. Адольф« у Берліне», дак. фільм, 2006 г., Германія.
**20.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.15** Фільматэка майстроў: «Я, Дон Джаванні», маст. фільм, 2009 г., Германія–Італія.
**23.45** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.
**23.55** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.35** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57, Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

З новага 2012 года мы вымушаны ўзняць падпісны кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй, вам, за рзуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл.: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

ВІНШАВАННІ

# ХТО Ў СУХУМІ, ХТО НА ФУТБОЛ

Алег НОВІКАЎ

**Параўнальны аналіз навагодніх выступаў прэзідэнтаў СНД выклікае вялікі сумнеў наконт адзінства і будучыні арганізацыі.**






Як вядома, практыка навагодніх (калядных) зваротаў кіраўнікоў дзяржаў з'явілася на брытанскім ВВС. У 1932 годзе кароль Георг V зачытаў тэкст, напісаны Рэд'ярдам Кіплінгам, у якім павіншаваў жыхароў Брытанскай імперыі з надыходзячым святам

У СССР традыцыю віншаванняў на Новы год заклаў старшыня прэзідыума Вярхоўнага Савета Міхаіл Калінін, які ў 1936-м прывітаў савецкіх палярнікаў. Пасля яго на Новы год у эфіры можна было пачуць Сталіна і Хрушчова, але нерэгулярна. А вось Леанід Брэжнеў любіў віншаваць свой народ. Напярэдадні 1970-га ён гэта зрабіў па тэлебачанню — упершыню ў гісторыі краіны. Леанід Ілліч моцна хваляваўся: тэкст, як кажуць, жаваў, рукі хадзілі сюды-туды, а вочы не глядзелі ў камеру. Першы блін атрымаўся як у той прымаўцы. У наступны раз словы выступу запісалі буйнымі літарамі на шпалерах, якія трымалі пад камерай. Паступова Ілліч набіў руку. Аднак напрыканцы 1970-х, калі Брэжнеў ужо зусім быў дрэнны, навагоднія ролікі адмянілі. Ні Андропаў, ні Чарненка пасля не жадалі паўтараць вопыт Брэжнева. А вось пры Міхаіле Гарбачове традыцыя навагодняга віншавання займела новае гучанне. Выступ на Новы год стаў сімвалам высокага статусу палітыка.

Лідары краін-нашчадкаў СССР ахвотна пераналі гэтую практыку. Мяжа 2011–2012-га не стала выключэннем. Усе як адзін прэзідэнты краін Садружнасці павіншавалі сваіх суайчыннікаў. «Прымусіў» сябе нават Эмамалі Рахмон — прэзідэнт Таджыкістану, дзе вельмі моцны ісламскі рэнесанс. У навагоднюю ноч ісламісты нават забілі хлопца ў касцюме Дзеда Мароза. Перад тым, як выступіць, Рахмон нагадаў пра тое, што Новы год — гэта ўвогуле хрысціянскае свята, аднак традыцыя ёсць традыцыя.

Хаця гісторыя падобных віншавальных выступаў у кожнай з краін СНД складае роўна 20 гадоў, мяняецца толькі інтэр'ер выступу. Часам прэзідэнты адмаўляюцца ад здымкаў у кабінетах: выступаюць на фоне гістарычных будынкаў, краявідаў, помнікаў і г.д. Часам у кадр запрашаюцца радасныя дзеці. Найбольш далёка ў гэтай галіне зайшоў Леанід Кучма. Ён зачытаў прамову на канапе ў родным доме, трымаючы на каленях унука. Побач ляжаў сабака. На думку аўтараў ідэі, такая выява мусіла павысіць ва ўкраінцаў каштоўнасці сям'і і тым самым кампенсаваць цяжкасці пераходу да рынкавай мадэлі.

Калі ў візуальнай канцэпцыі навагодняга роліка яшчэ дапускаюцца змены, то структура тэксту навагодняга віншавання прэзідэнтаў СНД дастаткова шаблонная. З невялікімі папраўкамі яна дзеліцца на тры блокі: А) апісанне прарываў, якія дасягнула краіна ў мінулым годзе пад кіраваннем выступоўцы; Б) пагрозы і выклікі на адрас краіны; В) прагнозы і абяцанкі на наступны год. Усё гэта замешана на лірычнай і сямейнай лексіцы. Напрыклад, кіргізскі прэзідэнт Алмазбек Атамбаеў пачаў навагоднюю прамову са звароту «Дарагія мае».

Самі тэксты даюць добрую глебу для аналізу эліты постсавецкіх рэжымаў. Возьмем, напрыклад, спіч Нурсултана Назарбаева. Нягледзячы на тое, што ўся краіна кажа пра нядаўні расстрэл АМАПам нафтавікоў-страйкоўцаў, казахскі гарант не палічыў патрэбным пра гэта згадаць. І праўды, нашто, калі, па словах Назарбаева: «Мы сталі адной з трох краін свету з самай дынамічнай эканомікай. У Астане створаны велічны знак нашых перамог і здзяйсненняў — трыумфальная арка». Хаця чаго здзіўляцца, калі калега Назарбаева з Беларусі, дзе інфляцыя і рост коштаў б'юць сусветныя рэкорды, кажа па выніках года: «Мы не дапусцілі эканамічнага краху, беспрацоўя, згортвання сацыяльных праграм і разладу ў грамадстве».

Тое ж назіраецца ў іншых краінах Садружнасці. Ільхам Аліеў: «Развіваюцца ўсе сферы эканомікі. У краіне вядзецца вялікая праца па добраўпарадкаванню і будаўніцтву. Усе статыстычныя паказчыкі эканамічнага развіцця маюць пазітыўную дынаміку». Іслам Карымаў: «Узбекістан сярод нешматлікіх дзяржаў у 2011 годзе дабіўся росту валавога ўнутранага прадукту на 8,3%». Цікава, што казаць пра велізарныя поспехі можна дастаткова абстрактна. Так, у сваім звароце да ўкраінскага народа Віктар Януковіч назваў мінулы 2011 год «выбітным», паколькі ў мінулым годзе «мы будавалі масты і дарогі, лякарні і школы».

Пералічыўшы дасягненні ў барацьбе з крызісам, палітыкі часам згадвалі пра цяжкасці. Як не дзіўна, гэта быў той жа крызіс. Так, напрыклад, Уладзімір Пуцін (яго навагодні выступ цытавалі часцей за выступ фармальнага прэзідэнта Мядзведзева) спачатку кажа, што «мы — вострай стабільнасці». А пасля дадае: «Мы толькі адзін крызіс перамаглі, але, на жаль, па ўсёй верагоднасці, увесь свет зноў на парозе новага эканамічнага крызісу».

Цікава, што амаль ніхто з лідараў СНД не казаў пра ўнутраную палітычную пагрозу свайму рэжыму. Хіба што расійскі тандэм, які не можа ігнараваць маштабы апошніх акцый пратэсту. Аднак робіцца гэта з прысмакам іроніі. «У такія часы палітыкі заўсёды эксплуатуюць пачуцці грамадзян, трошкі бурліць, але гэта непазбежная плата за дэмакратыю. Нічога незвычайнага тут няма» (Уладзімір Пуцін).

Парадаксальная сітуацыя ў Малдове. Марыян Лупу, які выконвае функцыі прэзідэнта, у сваім звароце наадварот заклікае, каб нехта нарэшце заняў гэту пасаду. З-за канстытуцыйнага крызісу краіна ўжо 2 гады не мае абранага прэзідэнта. Каб выращыць крызіс, напярэдадні Новага года Лупу нават зрабіў падарунак апазіцыі — адмовіўся ад таго, каб выстаўляць сваю кандыдатуру на вышэйшую ў дзяржаве пасаду.

Адсутнасць унутранай пагрозы кампенсуецца знешняй. Так, Серж Саргсян у пасланні армянам кажа: «Хачу, каб сёння мы не парушылі традыцыю і абвясцілі тост за нашых салдатаў, якія ў акопах сцерагуць нашу святочную ноч».

Найбольш прасунутым у галіне праблематыкі сучасных пагроз аказаўся Іслам Карымаў. Ён задумаўся над тэмай глабальнага пацяплення: «Не сакрэт, што кожны год характэрны сваімі кліматычнымі асаблівасцямі, ці гэта наваднене, экстрэмальная тэмпература ці іншыя капрызы прыроды, якія ствараюць свае праблемы і цяжкасці, у першую чаргу ў сельскай гаспадарцы, і ў канчатковым выніку ў паўсядзённым жыцці».

Нарэшце, пра прагнозы і абяцанкі на 2012 год. Ад іх аж дух захоплівае. «У 2012 годзе, калі Усявышні дазволіць, такімі ж высокімі тэмпамі працягнем пачатыя ва ўсіх кірунках шырокамаштабныя пераўтварэнні і яшчэ больш пашырым размах прац» (Гурбангулы Бердымухамедаў). «2011 год будзе годам новых крокаў у кірунку ажыццяўлення армянскай мары» (Серж Саргсян). «Мы годна правядзём футбольны турнір Еўра–2012. Дух перамогі аб'ядноае наш народ!» (Віктар Януковіч).

У некаторых палітыкаў проста напалеонаўскія планы на год Дракона. «Я абсалютна ўпэўнены, што падзенне Імперыі непазбежна, Грузія вызваліцца канчаткова, і я хачу, каб мы ўвялі традыцыю віншаваць адзін аднаго так: «У будучым годзе ў Сухумі!» (Міхаіл Саакашвілі). «Азербайджан ніколі не пагодзіцца… ніколі не дасць згоды на стварэнне на нашай спрадвечнай зямлі — у Нагорным Карабаху — другой армянскай дзяржавы. Усе мы добра ведаем, што цяперашняя Армянская дзяржава была створана на гістарычных азербайджанскіх землях» (Ільхам Аліеў).

Дарэчы, навагодні выступ Аліева меў рэзананс за мяжой СНД. У сваім навагоднім звароце прэзідэнт Азербайджана заявіў, што ён лідар усіх азербайджанцаў свету. Гэтыя заявы прэзідэнта Азербайджана выклікалі пратэст у Тэгеране. Там заявілі, што Ільхам Аліеў не можа быць лідарам іранскіх азербайджанцаў, таму што яны лічаць сваімі лідарамі кіраўнікоў іранскай дзяржавы.

Вось як весела было ў Садружнасці за пяць хвілін да звону курантаў. Толькі не зразумела, што будзе далей з такім СНД.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Лукашэнка мог бы змяніць старшыню Цэнтрвыбаркаму, калі б планаваў пачаць нешта рэфармаваць у практыцы правядзення выбараў ці хоць бы паказаць адпаведны намер. Пакуль, мабыць, усё застанецца, як ёсць. Таму Лукашэнка і пакідае Ярмошыну на пасадзе. Сфармаваны склад Цэнтрвыбаркаму не здольны самастойна прымаць рашэнні або нават прапанаваць меры па дэмакратызацыі выбарчай практыкі. Гэта цалкам правераныя людзі, якія даказалі сваю лаяльнасць рэжыму.

**«Delfi» (Літва)**

У Беларусі ёсць сацыяльны кантракт. Насельніцтва не прэтэндуе на вялікія палітычныя свабоды, але ўлада павінна забяспечваць сацыяльныя гарантыі, стабільнасць. У 2010 годзе Лукашэнка па аб'ектыўных прычынах пачаў парушаць умовы гэтага кантракту. Грошай у бюджэце не стала. З'явіліся праблемы з вядучымі прадпрыемствамі. А ў 2011 годзе ўпершыню паўстала пытанне пра тое, што ўжо могуць мець месца банкруцтвы, закрыццё прадпрыемстваў. Гэта для сацыяльна арыентаванай беларускай эканомікі — поўны крах. І тут ні нельга дарэчы прыйшлася наша прапанова пра льготы на газ і на энерганосьбіты ў цэлым. Чатыры гады Лукашэнка выйграў. Гэта будзе 2015 год, па разліках эканамістаў, яму больш нічога не застанецца прадаваць. Там яшчэ ёсць нейкія мінімальныя актывы, але больш у беларускай эканоміцы гандляваць няма чым.

**«Голос России» (Расія)**

У новы год Беларусь увайшла з новым органам, які падпарадкаваны непасрэдна Аляксандру Лукашэнку. Новая, падобная на амерыканскі ФБР спецыяльная служба павінна дапамагчы прэзідэнту ўтрымаць уладу. Служба называецца Следчы камітэт. Яна падпарадкавала сабе фактычна ўсіх беларускіх следчых і прыняла ўсе следчыя справы ў краіне. Стварэнне новага органу следства на фоне таго, як іншыя згубілі гэтую функцыю, — рэвалюцыя ў сістэме ўлады. Аляксандр Лукашэнка, які, як і іншыя аўтарытарныя правадыры, здаецца, баіцца палацавага перавароту, утрымліваў шэраг спецыяльных службаў. Гэта прыводзіла да вайнаў паміж групоўкамі. У апошнія часы ўплыў сілавікоў дадаткова вырас. Баючыся іхняй фронды, Лукашэнка стварыў новы суперорган, які будзе кантраляваць усіх. Змены ў структуры службаў таксама звязаны з эканамічным крызісам і падзеннем папулярнасці Лукашэнкі.

**«Gazeta Wyborcza» (Польшча)**

Звельмі высокім узроўнем верагоднасці працягнуцца два вельмі негатыўных працэсы ў Беларусі: па-першае, адток кваліфікаваных кадраў і таленавітай моладзі, першым чынам, у Расію, па-другое — высокая інфляцыя, якая ўжо негатыўна адбілася як на курсе нацыянальнай валюты Беларусі (беларускага рубля), так і на прыбытках шырокіх мас насельніцтва. У сваю чаргу, адміністратыўнае ўмацаванне беларускага рубля разам з іншымі фактарамі прывядзе да павелічэння адмоўнага сальда гандлёвага балансу Беларусі.

**«REGNUM» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРЦЫЯ. НАШ АДКАЗ ФРАНЦУЗАМ

Анкара адказала на рашэнне французскага парламенту ўвесці крымінальную адказнасць за адмаўленне факту генацыду армян у Асманскай Турцыі ў 1916 годзе. Тады, па дадзеных гісторыкаў, у выніку пагромаў было забіта некалькі мільёнаў мірных армян, якіх асманы падазравалі ў кантактах з расійскім войскам (праціўнікі Стамбула ў Першай сусветнай вайне). Прэм'ер Эрдаган на недружалюбны крок Парыжу збіраецца прызнаць французскі генацыд арабаў у вайне за незалежнасць Алжыру. У прыватнасці, гаворка пра масавыя забойствы арабаў 8 мая 1945 года ў Алжыры, калі французскія вайскоўцы забілі некалькі дзясяткаў тысяч чалавек. Палкоўнік, які камандаваў аперацыяй, сфармуляваў яе прынцып вельмі проста: «Трэба забіць усіх мужчын, якім больш за 15 гадоў». На гэтым турэцкія гісторыкі прыпыняцца не збіраюцца. У турэцкай прэсе шмат пішуць пра іншыя злачынствы французскіх каланізатараў у сваіх калоніях. Праўда, некаторыя гісторыкі лічаць перагляданне гісторыі ў палітычны інструмент «шызафрэнія». Яны выказваюць надзею, што эскалацыя паміж краінамі закончыцца ўвесну, калі прыняты ніжняй палатай закон будзе прадстаўлены на суд французскага Сенату. Толькі пасля ратыфікацыі законапраекту сенатарамі закон набывае юрыдычную моц.

**Паводле турэцкай прэсы**

### ВЕНГРЫЯ. АПАЗІЦЫЯНЕРЫ ПРЫЗНАНЫЯ ЗЛАЧЫНЦАМІ

Венгерскі парламент, у якім канстытуцыйную большасць маюць дэпутаты ад правай кансерватыўнай партыі Fidesz, прагаласаваў за тое, каб лічыць галоўную апазіцыйную Сацыялістычную партыю (MSZP) «злачыннай арганізацыяй». Сваё рашэнне парламентарыі матывуюць тым, што MSZP з'яўляецца афіцыйным пераемнікам Венгерскай сацыялістычнай рабочай партыі (галоўная афіцыйная партыя ў часы камунізму). Менавіта сацыялісты, на думку кансерватараў, у тым ліку нясуць адказнасць за крывавае падаўленне венгерскага антысталінскага паўстання 1956 года. Прадстаўнікі апазіцыі кажуць, што яны занадта маладыя, каб удзельнічаць у падзеях 1956 года, аднак іхнія аргументы не мелі ніякага эфекту.

Закон прыняты і 1 студзеня ўступіў у сілу, што стварае юрыдычны казус. Фактычна сацыялістычная партыя як злачынная арганізацыя не можа працаваць далей. Самі яны не выключаюць таго, што проста адмовяцца ад мандатаў і пойдуць уздымаць народ на пратэсты.

**Паводле польскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. ДЭПАРДЗЬЕ ПАДТРЫМАЎ САРКАЗІ



Вялікую буру незадавальнення выклікала ў французскім інтэрнэце заява вядомага французскага артыста Жэрара Дэпардзье наконт яго палітычных сімпатый на прызначаных на 2012 год прэзідэнцкіх выбарах. Дэпардзье ў інтэрв'ю штотыднёвіку «Journal de Dimanche» сказаў пра намер аддаць голас дзеючаму прэзідэнту-галісту Нікаля Сарказі. Па словах акцёра, апошнім часам прэзідэнт выправіў былыя памылкі і заслугоўвае таго, каб «за ім пайсці». Паколькі большасць веб-карыстальнікаў у Францыі людзі левых поглядаў, Дэпардзье пасля сваёй тырады адразу стаў самай ненавіснай фігурай у гэтым сегменце. Цікава, што да кампаніі супраць акцёра таксама прыклалі руку фанаты коміксу «Цінцін», які нядаўна экранізаваў рэжысёр Спілберг. Дэпардзье, каментуючы стужку, назваў іх куміра журналіста Цінціна «малым навозным жуком».

**Паводле французскай прэсы**

### УКРАІНА. 40 ГАДОЎ УКРАІНСКАЙ ЭСТРАДЗЕ



Украінскія нацыяналісты гучна адзначаюць 40 гадоў перамогі песні «Чырвона рута» (аўтары-выканаўцы Назар Ярэмчук, Васіль Зінкевіч, Уладзімір Івасюк) на фестывалі «Песня года», фінал якога адбыўся ў Маскве ў снежні 1972-га. Як вядома, «Песня года» была самым буйным музычным конкурсам у СССР. Нядзіўна, што, як правіла, лаўры на ім атрымлівалі песні з выразным прагрэсіўным палітычным падтэкстам. Таксама шанавалі монстраў савецкай эстрады кшталту Льва Лешчанкі або Іосіфа Кабзона. «Чырвона рута», аднак, так спадабалася аўдыторыі, што ў выніку вырашылі даць першы прыз відавочнай «папсе». Аднак «Чырвона рута», на думку нацыяналістаў, не была папсовым творам. Яна стварыла феномен украінскамоўнай масавай эстрады. Ярэмчук, Зінкевіч і Івасюк давялі, што на ўкраінскай можна спяваць не толькі фальклор. Самі выканаўцы, асабліва Уладзімір Івасюк, сталі культавымі асобамі сярод тагачасных праціўнікаў русіфікацыі Украіны. Не дзіўна, што яны трапілі ў зону інтарэсу з боку КДБ. Менавіта чэкісты, як лічаць нацыяналісты, стаяць за таямнічым самагубствам Ярэмчука ў 1979 годзе, калі яго знайшлі павешаным у адным з львоўскім паркаў. У 2009 годзе Генпракуратура Украіны аднавіла следства па таму факту, які раней спісвалі на банальны акт суіцыду на бытавой глебе. Аднак дасюль ніякага чэкісцкага следу знайсці не ўдалося.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

КІНО

# ВЯРТАННЕ ВЯЛІКАГА НЯМОГА

Алег НОВІКАЎ



**Сусветны поспех фільма «Артыст», знятага па канонах нямога кінематографа, выклікаў дэбаты пра магчымае адраджэнне, здавалася б, канчаткова забытага і архаічнага жанру кіно без гуку.**

Як вядома, эра нямога кінематографа закончылася вечарам 6 кастрычніка 1927 года. У гэты дзень у Нью-Ёрку адбылася прэм'ера першай у гісторыі поўнафарматнай гукавой стужкі «Спявак джазу». Рэакцыя публікі, калі верыць тагачасным рэпартажам, была амаль істэрычнай. Пасля заканчэння сеансу натоўп, які выйшаў з залы, сабраўся ў калону і правеў стыхійную маніфестацыю на вуліцах гораду. «Джолсан! Джолсан!» (прозвішча галоўнага акцёра і спевака ў карціне) — скандзіравалі кінааматары.

Для тых, хто ў наш час глядзеў «Спевака джазу», такая рэакцыя можа падацца дзіўнай. З мастацкага боку фільм з'яўляецца даволі прымітыўным. У большасці пры здымках былі ўжыты прыёмы старой нямой кінавытворчасці.

Тым не менш, пракатны поспех «Спевака джазу» выклікаў шалёную цікавасць іншых кінастудый да гукавых тэхналогій. Хутка гэта выклікала гукавую рэвалюцыю ў амерыканскім, а затым і ў сусветным кінематографе. Апошні нямы фільм быў зняты ў Галівудзе праз 2 гады. Пасля ЗША пачалася чарга гукавых фільмаў ва ўсім свеце. Ужо ў 1931 годзе на гук перайшлі і ў СССР: на экраны выйшла славутая «Пуцёўка ў жыццё».

Рэвалюцыя, якую выклікаў «Спявак джазу» ў грамадстве, стала падставай для шматлікіх мастацкіх твораў. Як правіла, іх героямі з'яўляюцца зоркі нямога кіно, якія з прыходам новых часоў губляюць сваю зоркавасць, перажываюць трагедыю, вымушаныя зноў шукаць сваё месца пад сонцам. Безумоўна, найбольш славутым творам на гэтую тэму з'яўляецца мюзікл «Тыя, што спяваюць пад дажджом» (1952).

І вось цяпер свет перажывае нешта падобнае на тое, што здарылася ў 1927 годзе пасля рэлізу «Спевака джазу». Аднак цяпер усё наадварот. Выход у мінулым годзе на экраны фільму «Артыст» (рэжысёр Мішэль Хазанавічус) справакаваў шалёны інтарэс да жанру нямога кіно. Шэраг не самых малых студый ужо плануюць здымкі новых фільмаў у гэтым жанры. На старонках прэсы ідзе дыскусія пра магчымасць адраджэння старой «нямой» акторскай, аператарскай, сцэнарнай школаў.

Такі інтарэс да «Вялікага нямога» — так называлі кіно да «Спевака джазу» — дастаткова дзіўны. Эксперыменты са здымкамі нямых фільмаў працягваліся яшчэ доўга пасля 1927 года, аж да нашых дзён. Іншая справа, што, як правіла, гэта былі пароды на самыя значныя і паспяховыя артэфакты нямой эры кінематографу.

Натуральна, перш за ўсё быў запатрабаваны камедыйны жанр. Чарлі Чаплін, Гары Ллойд, Бастэр Кітан і іншыя «нямыя» комікі дасягнулі вельмі высокага ўзроўню камедыйнага мастацтва, а створаная імі школа і праз шмат гадоў аказалася цалкам у барацьбе з гукавымі камедыямі.

Публіка зноў і зноў хацела Чапліна, і кінастудыі вымушаны былі яго даваць. Так, у 1953 годзе Жак Таці зняў фільм «Вакацыі месье Хуло». Фільм атрымаў добрую касу ў Еўропе. У 1976-м вядомы амерыканскі стваральнік камедый Мэл Брукс зняў стужку, якая так і называецца «Нямы фільм» (англ.: Silent Movie). Карціна таксама аказалася фінансава паспяховай.

Хаця, па вялікаму рахунку, згаданыя фільмы былі больш данінай часам нямога кіно, яны дапамаглі захаваць інтарэс новай генерацыі акцёраў і кінематаграфістаў да старой камедыйнай традыцыі. Лічыцца, што славутыя пантамімы і грымасы Містэра Біна — не што іншае, як новая сучасная рэдакцыя чаплінска-кітанскага канону.

Акрамя «нямых камедый» шмат хто ў часы гуку цікавіўся «нямымі» жахамі. Іншымі словамі, намагаўся рабіць тое, што рабілі прадстаўнікі нямецкага кінаімпрэсіянізму (Фрыдрых Вільгельм Мурнау, Фрыц Ланг, Паўль Лені і інш.). Так, у 1979 годзе Вернер Герцаг зняў сваю версію «Насферату» (фільм Вільгельма Мурнау пра прыгоды вампіра). Яго версія называлася «Насферату. Прывід ночы».

Былі сярод кінематаграфістаў і фанаты савецкай класікі нямога кіно, якая дала свету такіх карыфеяў, як Вертаў, Даўжэнка або Эйзенштэйн. У пачатку 2000-х Гай Мэддзін зняў фільм «Сэрца свету» ў стылістыцы савецкіх фільмаў 1920-х. Сюжэт адпавядае рэвалюцыйнаму духу першых гадоў СССР: маладыя, поўныя энтузіязму савецкія людзі праніКаюць у глыб зямлі і знаходзяць сэрца планеты, якому можна паставіць дыягназ — інфаркт. Каб выратаваць сусвет, адзін з падарожнікаў аддае Зямлі свой сасудзісты орган. Планета дзякуючы героям жыве далей.

Як бачым, усе пералічаныя і найбольш вядомыя нямыя фільмы — пароды або версіі класічных твораў нямога кінематографу. Усе спробы стварыць так званае «новае нямое кіно» — здымаць без гука ў абсалютна новай манеры — праваліліся або засталіся на ўзроўні арт-хауснага кіно — кіно не для ўсіх.

Нават «Артыст» па-сутнасці адносіцца да настальгічнага кіно. Гэта заўважна ўжо па прозвішчу галоўнага персанажа — Джордж Валенцін. Усім разумела, што сцэнарысты намякаюць на славутага Рудольфа Валенціна — сэкс-поп ікону 1920-х гадоў, актора нямых фільмаў, чыя трагічная смерць у 1926-м выклікала хвалю суіцыдаў сярод яго прыхільнікаў па ўсім свеце.

З улікам сказанага можна адзначыць, што нямое кіно — гэта толькі сродак яскрава перадаць атмасферу 1910–1920-х гадоў. Паколькі што цяжка ўявіць, як пантамімай можна перадаць дух сучаснасці, кліпавую свядомасць.

Не кажучы ўжо пра тое, адкуль браць акцёраў. Як прызнаюць спецыялісты, «выяўленчыя і мастацкія магчымасці нямога кіно былі надзвычай высокія. Выпрацаваўся адмысловы непаўторны стыль зносін з гледачом пры дапамозе мімікі і жэстаў. Выразнасць рухаў некаторых акцёраў нямога кіно наўрад ці можа быць дасягнутая нават лепшымі прадстаўнікамі сучаснага кіно».

Такім чынам, калі «Артыст» і справакуе нешта, то не больш за хвалю фільмаў пра першую палову мінулага стагоддзя, кажуць скептыкі. Сапраўды, у гэтым годзе ў сусветны пракат выходзіць наступны нямы мастацкі фільм «Нямое жыццё» (Silent Life). Фільм — біяграфія згаданага вышэй Рудольфа Валенціна.

Тыя, хто верыць у вяртанне «Вялікага нямога», заклікаюць пачакаць. Па-сутнасці «Артыст» яшчэ не дасягнуў зеніту сваёй славы. Напярэдадні ўручэнне прэміі «Залаты Глобус», дзе ў фільма аж сем намінацый. Стужку Хазанавічуса лічаць адным з галоўных кандыдатаў на Оскара. Таму інтарэс аўдыторыі і кінавытворцаў да жанру нямога кіно толькі распачынаецца.

ПАГРОЗЫ

# ЛАЦІНСКАЯ АМЕРЫКА ЎЗБРОЙВАЕЦЦА

Алег НОВІКАЎ

**Цэнтральная Амерыка перажывае бум гонкі ўзбраення. Эксперты нават не выключаюць вайсковых эксцэсаў.**

Апошні раз такія буйныя партыі зброі і вайсковай тэхнікі, па словах спецыялістаў, краіны рэгіёну набывалі ў 1980-я гады, калі праз Цэнтральную Амерыку праходзіла лінія фронту «халоднай вайны». Прыход сандзіністаў да ўлады ў Нікарагуа, якіх хутка ўзяла пад сваю апеку Масква, Вашынгтон зразумеў як пагрозу стварэння другой Кубы. Атрады контрас, якіх фінансаваў ЦРУ, развязалі грамадзянскую вайну ў краіне. Вакол Нікарагуа быў створаны санітарны кардон з антыдэмакратычных вайсковых рэжымаў. Гэта, у сваю чаргу, стала стымулам для актывізацыі партызанскіх левых рухаў.

Перабудова і савецка-амерыканская палітыка разрадкі аслабілі напружанасць. Контрас і сандзіністы дамовіліся змагацца не на палях баёў, а на выбарчых участках. У Гватэмале і Сальвадоры паўстанцы падпісалі мірныя дамовы з урадам. Развал Савецкага Саюза з яго геапалітычнымі забабонамі аўтаматычна падпарадкаваў рэгіён амерыканскаму гегемону. Адпаведна, арміі амаль ва ўсіх краінах былі кардынальна скарочаныя.

Сёння мода на вайну вяртаецца. Так, гватэмальская армія збіраецца набыць за 166 мільёнаў шэсць бразільскіх бамбардзіроўшчыкаў класу «Super Tucano» і тры радарныя сістэмы. Гандурас у адказ набывае чатыры самалёты таго ж тыпу. Дэбаты наконт павелічэння базы ідуць у Сальвадоры. Вайсковыя бюджэты ў згаданых краінах за апошні год выраслі амаль на 30 працэнтаў. А ў Гандурасе — амаль на 40 працэнтаў. Нават краіны, якія па канстытуцыі не маюць войскаў, папаўняюць арсеналы. Панама закупіла адзінаццаць патрульных караблёў быццам для патрэб мытні. На самай справе, яны ахоўваюць акваторыю і берагавую лінію. Яшчэ адна краіна, якая не мае войскаў, Коста-Рыка, збіраецца набыць радарную сістэму.

Якая муха ўкусіла лацінаамерыканскіх палітыкаў? Адкуль яны чакаюць вайны? Аргументацыя «ястрабаў» будуецца на неабходнасці барацьбы з крыміналам. Злачынныя структуры, якія акрамя ўсяго звязаныя з трафікам наркотыкаў, прынікаюць паўсюль. Прычым гэта не традыцыйныя мафіёзныя кланы, арыентаваныя на атрыманне грошай. Гэта таксама маладзёвыя крымінальныя субкультуры кшталту славутых марас, якія часта ідуць на парушэнне закону, паколькі так папросту патрабуе кодэкс сябра групоўкі. Адсюль сумная статыстыка. Калі па ўсім свеце на сто тысяч жыхароў у сярэднім за год забіваюць 8,8



чалавек, то ў Гандурасе — 73, у Сальвадоры — 71, Гватэмале — 52. Пры гэтым, як кажуць палітыкі, вопыт сведчыць, што паліцыя не здольная стрымаць цунамі забойстваў і гвалту.

Яшчэ адна крыніца пагрозы — экспансія картэляў наркабаронаў з суседняй Мексікі. Наркагандляры, на першы погляд, паводзяць сябе больш сціпла: намагаюцца атрымаць сувязі ў дзяржаўнай адміністрацыі, каб тая заплюшчыла вочы на наркатрафік. Аднак за ўсім гэтым стаіць пагроза стварэння дзяржавы ў дзяржаве. Картэлі канцэнтруюць столькі фінансаў, што на нейкім этапе проста кідаюць адкрыты выклік нацыянальнаму ўраду. Менавіта такі працэс мы назіраем сёння ў Мексіцы, дзе прэзідэнт Кальдэрон вядзе сапраўдную вайну з кланамі наркагандляроў. Ахвярамі 5-гадовага супрацьстаяння ўжо сталі 42 тысячы чалавек.

Незалежныя аналітыкі, аднак, не вельмі вераць у падобную аргументацыю. Як ні круці, кажуць яны, армія не здольная выконваць паліцэйскія функцыі, замяніць аператыўную, следчую, аналітычную працу. Яны ахвотней спісваюць гонку ўзбраення на нейкі псіхоз сярод мясцовага палітыкума. Рэфлекс узбройвацца набыў характар паўзучай параноі. Палітыкі жывуць па прынцыпу — калі твой сусед набывае новыя віды вайсковай тэхнікі, то ты таксама мусіш рабіць тое ж самае.

Для такога ўзаемнага недаверу існуе гістарычная глеба. Гісторыя краін Цэнтральнай Амерыкі — гэта паласа лакальных войнаў. Канчатковых межаў, якія прызнаюцца ўсімі бакамі, паміж некаторымі краінамі дасюль няма. Падазронасць на адрас суседзяў стала чымсьці накшталт часткі нацыянальнага менталітэту. Як казаў у 1945 годзе Рыкарда Хіменэс Арэамуна, які тройчы быў прэзідэнтам Коста-Рыкі, у яго краіне існуюць тры вечныя тэмы — «засуха, дождж і праблемы з Нікарагуа».

Менавіта згаданыя краіны — Нікарагуа і Коста-Рыка — нясуць адказнасць за новую хвалю мілітарызацыі Цэнтральнай Амерыкі. Усё пачалося год таму, калі нікарагуанскія салдаты захапілі востраў Калера на рацэ Сан-Хуан, якая служыць чымсьці накшталт дзяржаўнай мяжы. Коста-Рыка адразу выказала пратэст. На думку тутэйшых дыпламатаў, Калера належыць Коста-Рыка, паколькі востраў бліжэй да яе берагу.

Дыпламатычная перапіска на гэтым не скончылася. Нікарагуанскі МЗС заявіў, што востраў ніяк не можа належаць суседзям з улікам таго, што ўвесь басейн належыць Нікарагуа. Пакрыўджаная Коста-Рыцы наняла парамілітарных наёмнікаў і набыла для іх партыю вайсковых верталётаў. Сутыкнення ўдалося пазбегнуць выключна таму, што за рашэнне канфлікту ўзяўся міжнародны суд у Гаазе. У мінулым сакавіку трыбунал пастанавіў, каб абодва бакі аднавілі статус-кво — Нікарагуа выводзіць войскі з вострава, а Коста-Рыка заканчвае канцэнтрацыю наёмнікаў.

Пасля гэтага на нейкі час тэма канфлікту знікла з загалоўкаў СМІ. І вось цяпер новы паварот. Замест вайскоўцаў Нікарагуа адправіла на востраў «камсамольцаў» кіруючай у краіне партыі Сандзініцкага фронту нацыянальнага вызвалення (FSLN). Маладняк заняў стратэгічную кропку ў імя... прыроды. Як гаворыцца на сайце FSLN, Коста-Рыка будуе ўздоўж берагу аўтамабільную магістраль, якая можа сапсаваць навакольле.

«Не існуе ніякага апраўдання для таго, каб праводзіць падобныя працы, тым больш яны могуць парушыць прыродны баланс», — кажа нікарагуанскі МЗС. Адначасова Манагуа звярнуўся з іскам супраць Коста-Рыкі ў той жа Гаагскі трыбунал.

Коста-Рыка ж кажа, што тая магістраль — гэта звычайны бяскрыўдны для прыроды аўтамабільны шлях, які па праекту павінен далучыць адсталыя плямёны індзейцаў да нацыянальнай інфраструктуры. І ўвогуле, Коста-Рыка не павінна ўзгадняць такія рэчы, як аўтатрасы, з замежнымі ўрадамі.

Сан-Хасэ (сталіца Коста-Рыкі) знайшоў сабе саюзнікаў у выглядзе ўнутранай нікарагуанскай апазіцыі. Праціўнікі Артэгі кажуць, што сандзіністы наўмысна пайшлі на эскалацыю міжнароднага канфлікту, каб адцягнуць увагу грамадства ад вынікаў прэзідэнцкіх выбараў у мінулым лістападзе. Нагадаем, што па іх выніках сандзініст Даніэль Артэга зноў стаў прэзідэнтам, набраўшы 60 працэнтаў галасоў. Між тым, апазіцыя сцвярджае, што на 30 працэнтаў выбарчых участках у дзень галасавання мелі месца фальсіфікацыі. Быццам прыхільнікі FSLN атрымлівалі магчымасць галасаваць двойчы. Прадстаўнікоў апазіцыі на такія ўчасткі папросту не пускалі.

Нават левыя выданні згодныя, што Артэга нешта «нахімічыў» на выбарах. Апошнім часам ён пасварыўся з вялікай часткай активу і ветэранаў FSLN, актыўна заігрывае з Касцёлам. Аднак нават самыя правыя выданні не рызыкуюць назваць Артэгу падпальшчыкам вайны. Адзінае, што яны ведаюць дакладна, — пасля апошніх падзей новы віток гонкі ўзбраення ў Цэнтральнай Амерыцы непазбежны.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### МАЙКЛ МАРТЭЛІ



Новы прэзідэнт Гаіці прапанаваў адрадзіць у краіне войска. Гаіцянскае войска было распушчана 17 гадоў таму часткова з-за бюджэтных праблем, а часткова з-за таго, што ваяваць гаіцянам няма з кім. Гаіці знаходзіцца на востраве ў Карыбскім моры, на якім ёсць яшчэ адна краіна — Дамініканская рэспубліка. Аднак нападаць на гаіцян улады ў Санта-Дамінга (сталіца Дамініканы) наўрад ці жадаюць, паколькі Гаіці — краіна жабракоў. У сувязі з гэтым ініцыятыва прэзідэнта выклікала чуткі наконт таго, што рэжым рыхтуецца да ўвядзення вайсковага становішча, як ужо было раней у гісторыі. Адзін з цікавых аргументаў на карысць гэтай версіі звязваюць з тым, што Мартэлі — прафесійны выканавец рэпу. Субкультура рэпу вельмі шануе праявы гвалту. Самі ўлады кажуць, што войска ім патрэбна для барацьбы з наркамафіяй і тэрарыстамі. Аднак, хутчэй за ўсё, стварэнне гаіцянскага войска — гэта просьба міжнародных структур. Пачынаючы з 2004 года парадак у краі падтрымлівае корпус ААН. Аднак апошнім часам у блакітных касак праблемы з тубыльцамі, якія лічаць, што менавіта жаўнеры ААН завезлі ў Гаіці эпідэмію халеры, што знішчыла ў мінулым годзе 7 тысяч чалавек.

### ЮЛІЯ ЦІМАШЭНКА




Нефармальнага лідара ўкраінскай апазіцыі, былога прэм'ера напярэдадні Новага года этапавалі з кіеўскага ізалятара ў калонію ў харкаўскай вобласці. Прыхільнікі Цімашэнка кажуць, што яе вывезлі амаль гвалтоўна, паколькі яна, на іх думку, не можа рухацца. Адвакат малюе жудасныя сцэны побыту вязня. Быццам у яе камеры ў калоніі не выключаюць святло. Юлію ўвесь час здымаюць на відэа, і нават пры наведванні прыбіральні. Для падтрымкі свайго лідара бютаўцы збіраюцца разбіць пад сценамі турмы намётавы лагер і жыць у ім сем гадоў (менавіта такі тэрмін атрымала Юля). Блізкая да Партыі рэгіёнаў прэса кажа, што Цімашэнка жыве ў залатой клетцы. У калоніі яна будзе жыць у асобным пакоі, дзе ў клазеце ёсць нават бідэ. Больш таго, быццам Юліі дазволілі прыхапіць з сабою асабістыя рэчы, якія ледзь-ледзь умясціліся ў некалькі мікрааўтобусаў. На думку аналітыкаў, улада вядзе спецыяльную медыя-гульню на выпадак магчымага вызвалення Цімашэнка (катэгарычнае патрабаванне ЕС). Ажыятаж вакол камфортных умоў знаходжання Юліі ў камеры павінен падарваць яе імідж пакутніка за просты люд. Цяжка сказаць, наколькі такі прыём спрацуе, аднак нейкая баналізацыя сітуацыі вакол Цімашэнка відавочна.

### УГА ЧАВЕС

Прэзідэнт Венесуэлы, лідар Баліварскай рэвалюцыі раскрыў новую змову ЗША супраць прагрэсіўных лідараў Лацінскай Амерыкі. Падставай стала навіна з Аргенціны, дзе мясцоваму прэзідэнту 58-гадовай Крысціне Кіршнер паставілі дыягназ «рак». Уга, у якога ў мінулым чэрвені таксама знайшлі падобную хваробу, лічыць, што гэта ўсё не выпадкова. На яго думку, яго і Крысціну заразілі амерыканскія спецслужбы. Па словах Чавеса, існуе нейкая тэхналогія, якая праваку цяжкую хваробу. Як бы фантастычна ні гучала тэорыя Уга, аднак нешта дзіўнае сярод лацінаамерыканскіх лідараў сапраўды адбываецца. Раней за выпадак з Чавесам рак знайшлі ў былога бразільскага прэзідэнта Лулы. Ходзяць плёткі, што цяперашні прэзідэнт Бразіліі Дзілма Русэф і яе парагвайскі калега таксама маюць праблемы такога кшталту. Як бы тое ні было, Крысціна Кіршнер пакуль адмовілася шукаць прычыны сваёй хваробы ў дзейнасці ЦРУ. Яна лічыць, што пасля аперацыі, якая прызначаная на бліжэйшыя дні, усе будзе добра.



▸ ТАЯМНІЦЫ ГІСТОРЫІ

# ЗАБОЙСТВА ВІЛЬГЕЛЬМА КУБЭ

## (ГІСТОРЫКА-ДАКУМЕНТАЛЬНАЕ ЭСЭ)

**Анатоль ВАЛАХАНОВІЧ**

**Працяг. Пачатак у №№42–47.**

Труна з парэшткамі Вільгельма Кубэ стаяла ў яго доме для развітання, потым яе перанеслі ў Дом афіцэраў. Цікава адзначыць, што праз 53 гады менавіта ў Доме афіцэраў праходзіла развітанне з Героем Савецкага Саюза Аленай Рыгораўнай Мазанік.

Пасля забойства Кубэ ў Мінск для «разборак» прыехаў намеснік Гітлера па НСДАП Марцін Борман, які ўчыніў разгон акупацыйнай адміністрацыі за яе «даверлівасць і лагоднасць» у адносінах да мясцовага насельніцтва. Распавядаюць, што ён нават ударыў па твары намесніка Кубэ доктара Кайзера, разжалаваў яго і выслаў салдатам на Усходні фронт.

### Хроніка пахавання

**24 верасня (пятніца).** Масква. Газета «Правда» паведаміла, што гаўляйтар Вільгельм Кубэ загінуў ад «меткой партизанской пули».

Жалобны цырыманіял пахавання Кубэ транслявалі ў Мінску па радыё.

**25 верасня (субота).** Труна была ўстаноўлена на артылерыйскі лафет, накрытая фашысцкім сцягам і дастаўлена ў аэрапорт, а адтуль самалётам — у Берлін. Аніта Кубэ і тры малалетнія сыны труну ў Берлін не суправаджалі і на пахаванні ў Берліне не прысутнічалі. Яны перажылі вялікі стрэс. Хутка Аніта з сынамі з Мінска выехала ў Прагу.

**25 верасня.** Вечарам труна з целам Вільгельма Кубэ была ўстаноўлена ў рэйхсміністэрстве па справах акупаваных усходніх тэрыторый (у будынку былога савецкага пасольства ў Германіі, цяпер пасольства Расійскай Федэрацыі) на цэнтральнай вуліцы Берліна Унтэр дэн Ліндэн.

**27 верасня (панядзелак).** Труна з целам Кубэ ўстаноўлена ў новай рэйхсканцылярыі. У 12 гадзін дня ў будынак рэйхсканцылярыі прыбылі міністр па справах акупаваных усходніх тэрыторый Розенберг, міністр прапаганды Гебельс, кіраўнік Германскага працоўнага фронту Лей, іншыя вышэйшыя ваенныя і цывільныя чыны Трэцяга рэйху. На пахаванні прысутнічала маці гаўляйтара Іда Кубэ, два яго сыны ад першага шлюбу: Хорст — чыноўнік адміністрацыі горада Вернігеродэ і Вульф-Дзітэр — оберяфрэйтар дзеючай арміі Трэцяга рэйху. У зале прысутнічала дэлегацыя з Мінска: кіруючыя супрацоўнікі Генеральнага камісарыята Беларусі, функцыянеры НСДАП у Генеральнай акрузе, «прадстаўнікі беларускага народа», якія былі апрануты ў нацыянальныя строі.

Паніхіду адкрыў Розенберг. У сваёй прамове ён падкрэсліў, што выступае таксама і ад імя Адольфа Гітлера. Розенберг далучыў да шматлікіх узнагарод нябожчыка Вільгельма Кубэ Рыцарскі крыж з мячамі — пасмяротную ўзнагароду паводле ўказу Гітлера ад 27 верасня 1943 года ў дзень пахавання Кубэ.



Пахаванне В. Вубэ ў райхсканцэлярыі

**27 верасня.** У другой палове дня Кубэ ў прысутнасці родных, сяброў і паплечнікаў быў пахаваны на старых евангелісцкіх могілках Лютэра ў паўднёвым прыгарадзе Берліна Ланквіцы. Гэта было жаданне Кубэ, выказанае ім яшчэ пры жыцці.

Аніта Кубэ на пахаванні мужа не прысутнічала быццам бы з-за таго, што яна ў хуткім часе павінна нарадзіць дзіця. 12 кастрычніка 1943 года ў адной з клінік Прагі яна нарадзіла хлопчыка, якога назвалі Вальтэр. Нямецкія газеты ў той жа дзень паведамілі, што Мазанік, якая была вінавата ў гібелі гаўляйтара, павешана. А Мазанік у той жа дзень паляцела на самалёце ў Маскву.

***

У сувязі з нараджэннем чацвёртага сына Аніта Кубэ апублікавала ў нямецкіх газетах невялікае паведамленне: «У якасці апошняй цудоўнай спадчыны ад майго горача любімага мужа мне быў падараваны наш чацвёрты сын Вальтэр. З болем і шчасцем, Аніта Кубэ, народжаная Ліндэнколь».

Так лёс паставіў апошнюю кропку ў цікавай гісторыі жыцця Аніты з Вільгельмам Кубэ. Гісторыі, якая пачалася за дзевяць гадоў да таго, у 1934 годзе, у невялікім гарадку Шнайдэмюль у час спектакля «Таціла» па п'есе В. Кубэ. У гэтым спектаклі Аніта Ліндэнколь іграла царыцу готаў Сванхільду. Актрыса, якая была маладзей за Кубэ на 24 гады, так уразіла на сцэне аўтара п'есы, што ён кінуў жонку Маргарэт, з якой быў у шлюбе з 1913 года, і двух сыноў — Хорста 20 гадоў і Вульфа-Дзітэра 15 гадоў.

У канцы Другой сусветнай вайны і пасля яе Аніта Кубэ жыла ў сваіх бацькоў непадалёку ад Мюнхена. У 1951 годзе паехала ў Аргенціну да сына Гаральда. У 1958 годзе яна вярнулася на радзіму, у ФРГ. У сталым узросце, далёка за 90 гадоў, жыла ў доме састарэлых у г. Канстанцы, куды пажадала паехаць сама. Догляд за ёй забяспечвалі ўрачы вышэйшай катэгорыі і абслуга дома састарэлых. У публікацыях нямецкай прэсы сцвярджалася, што ў апошнія гады Аніта Кубэ пакутавала на псіхічныя хваробы. Яе часта наведвалі сыны. Яе дзеці жылі ў розных краінах Паўднёвай Амерыкі: Гаральд — у Коста-Рыцы, Вільгельм — у Бразіліі, Пітэр — у Перу. І толькі да самага малодшага з сыноў — Вальтэра — лёс не быў літасцівы. Ён заўчасна памёр ад лейкозу.

Амаль усе члены першай сям'і Вільгельма Кубэ былі пахаваны побач з ім у Ланквіцы: у 1967 годзе — старэйшы сын Хорст, у 1974 годзе — першая жонка Маргарэт Шмідт, у 1994 годзе — малодшы сын Вульф-Дзітэр, у 2001 годзе жонка Вульфа Вальтраўд.

### Дзве свінні і карова

Трагедыя сям'і Дразда і Грыбоўскай была прадвырашана скваплівасцю сваякоў Валянціны Шчуцкай, якія ўсімі сіламі імкнуліся зберагчы хатнія пажыткі і сваю жыўнасць.

Осіпава выканала ўсе ўмовы, якія выставіла сямейства Мазанік-Шчуцкай. І калі наняты ёй возчык прыбыў у вёску Масюкоўшчына для перавозкі сям'і Валянціны Шчуцкай у партызанскі атрад, маці і цётка мужа Валянціны ўчынілі скандал і катэгарычна заявілі, што выязджаць не будуць, калі не дадуць ім магчымасці ўзяць з сабой карову і двое свіней.

Усе рэчы на адзін воз не змяшчаліся, даваліся наняць яшчэ адзін воз за два пуды жыта. Гэта была трата каштоўнага часу, а шлях у партызанскі атрад «Дима» далёкі. Ды і па шляху з вёскі Масюкоўшчына ў атрад вазы павінны былі абавязкова заехаць у Мінск і на кароткі час спыніцца на двары, дзе жыла сям'я Дразда і Грыбоўскай. Кватэра знаходзілася на вуліцы Заслаўскай, 33 (34).

Вось што ў 1978 годзе ўспамінае Мазьнякова Тацяна Якаўлеўна, былая Мінская падпольшчыца:

*«Вызвали меня в отряд: Логойский район, деревня Янушковичи. Встретилась с двумя командирами: Кеймахом и новым командиром, недавно прилетевшим из Москвы майором Николаем Петровичем Фёдоровым.*

*Моя кличка была «Малая Тоня». Говорят мне: «Тоня! Вам задание: пойдете в Минск и найдете там хорошую лошадь и надежного возчика. Надо вывезти семью Мазаник!»*

*С этим заданием я и ушла в Минск. Но не так-то легко в то время найти было хорошую лошадь и надежного возчика. На четвертый день я встретила такую двухпарную повозку. Я попросила (возчика), чтобы он меня подвез.*

*Он ехал в деревню Столовая. Я сказала: «Мне по пути», и мы с ним разговорились. Я говорю: «Какая у вас красивая лошадь». А он отвечает: «Да, это лошадь красивая и сильная, лошадь артиллерийская. Но работает. Она у нас одна на двоих, один на ней неделю работает, а потом второй, и кормим по очереди».*

*Спросила: «Кто второй?» Он мне назвал: «Стефанович Вячеслав Павлович». Поговорила со Стефановичем, он согласился. Это был молодой мужчина, и мы договорились с ним ехать в Масюковщину, как только придет его очередь. Нужно было ждать два дня.*

*Я встретилась с Осиповой как старшая группы.*

*Она сказала: «Тоня, пойдем, вынесем вещи Мазаник из ее квартиры, куда она скажет».*

*Я пошла с ней на ул. Энгельса, дом №30, кв. 9 [правильно — дом № 48. — А.В.]. Этот дом и сейчас стоит там же, и квартира №9, в которой жила Мазаник. А напротив, через дорогу жил Кубэ.*

*Из квартиры Мазаник мы вышли втроем. Мы несли узлы, а она без них перешла на ту сторону, где жил Кубэ.*

*Мазаник пошла к себе на работу, а мы понесли ее барахло, и никто нас не схватил с поличным, как описывается в одной из книг; видимо подумали, что мы служанки фрау гросс Галины, как ее называли.*

*Но тут и время подошло ехать в Масюковщину, опять вывозить барахло-вещи. Поехали мы с Стефановичем. Когда мы въехали во двор, нас встретила ее тетка, лет 50. Спросила, зачем мы приехали.*

*Я ответила: «Вашей Елене дали в Минске квартиру, меня прислали вас перевезти».*

*Она мне ответила: «Гелена казала, каб все забрали, иначе не поедем».*

*Стали таскать из сарая матрацы с немецкой свастикой, наполненные всяческим барахлом. Видимо, грабленым. Даже 2 пудовых горшка вишневого варенья, с которым они не хотели расстаться, погрузила. Посадила знаменитую бабушку, как о ней в одной из книг пишется. Двоих маленьких детей ее сестры Валентины Шуцкой замаскировали детскими игрушками, и нужно выезжать из двора. Но не тут-то было, мне тетка заявляет: «Еще не все забрали. А еще не забрали свиней и корову».*

*Я ей отвечаю: «Вы же видите, брать некуда!»*

*Она мне отвечает: «Тогда будем разгружаться. Не поедем. Так сказала Гелена».*

*Подводчик у меня спрашивает: «Разгружаться?»*

*Я отвечаю: «Подожди, не разгружайся. Тут у меня деревня близко, четыре километра. Я побегу и найду подводу на этих чертовых свиней, заплачу ихним хлебом, сколько она скажет. А хлеб у них был — жито, ячмень и пшеница».*

*Сбегала в деревню Потреба, подводу нашла за хлеб. Приехала я на второй подводе в дом Мазаник. Погрузили двух свиней на подводе «валетом», да к этой подводе привязали корову. И мы тронулись с двора, минули кладбище. Корова оторвалась и побежала домой.*

*Когда я приехала на Заславскую улицу, первую подводу я спрятала у знакомых мне людей, а вторая разгрузила свиней, уехала к себе в деревню. Мы переночевали кто где.*

*Утром из окон квартиры Дроздовых Мазаник убедилась, что везут ее вещи, и Осипова помахала мне рукой, и я уехала в отряд «Дима». В деревне Присеки меня встретили наши разведчики Листратов Михаил и Башлык (он погиб).*

*Возчик вернулся в тот же день. А я переночевала в Присеках, и опять с заданием пошла в город.*

*Когда я утром пошла в город, тоже с заданием, зашла к Стефановичам. Мне сказали, когда Стефанович заехал к себе во двор, лошадь упала. Тут же прибежал его напарник Беляев Матвей и сказал Стефановичу: «Если лошадь пропадет, ты мне заплатишь половину денег ее стоимости, — а заплатили они за нее на те деньги 35 тысяч, — а если лошадь поправиться, он на ней будет работать месяц». Так и договорились. Отвели лошадь на луг. Привязали за вожжу, и она качалась с животом две недели и поправилась.*

*Почему я так много пишу об этой лошади? Ведь она историческая. Мы выполнили задание командования. Задание называлось «Минск – отряд» — это раз. Своей болезнью спасла семью возчика и его трех маленьких детей и жену. И дождалась освобождения Минска, и опять ее взяла артиллерия возить пушки. Дальнейшая судьба ее мне неизвестна.*

*И вот когда второй возчик выехал в город на той выздоровевшей лошади и по ул. Толстого, на лошади вечером его остановило гестапо, и с ними был второй возчик, который возил свиней. Второй возчик признал лошадь, дугу и повозку, а возчик — не тот. Они спросили, откуда лошадь. Беляев ответил: «Столовская».*

*Этот старик Беляев воевал в 1914 году и попал в плен к немцам. Был в плену три года, знал немецкий язык. И он сделал доброе дело, сказал Стефановичу, что его разыскивает гестапо. Он еле прибежал домой и сказал: «Спасайтесь! Сейчас должно появиться гестапо. Наш план нарушился. Чтобы всю семью вывести в отряд, нужно бежать поодиночке и разными дорогами». Я схватила их 7-летнего сына, перешла речку Свислочь. Стефанович схватил свою 5-летнюю дочь. Тоже побежал, а его жена с 3-летней дочуркой стала запирать свою хату и тут появилось гестапо.*

*Они ее спросили, где здесь живет Столовский. Она им ответила: в конце деревни. Они поехали, а она этим моментом ушла от смерти и мук.*

*Вот за это выполнение этой операции вышло три героя: Осипова, Мазаник и Троян. Я получила орден Отечественной войны 2-й степени и медаль Партизану 1-й степени. И 70 рублей пенсии: 50 рублей я сама заработала, 20 — добавил горсобес. Мазаник видела лично два раза. Первый раз, когда мы с Осиповой выносили ее барахло, а второй раз, когда освободили Минск, вызвала она нас двоих, меня и жену Стефановича. Когда мы с ней пришли к Мазаник, в ту же квартиру, из которой несли узлы. Она даже сесть нас не пригласила.*

*Вот она нам говорит, что из ее вещей, которые мы перевозили, пропала пара мужских галош, так отдайте галоши, а нет галош, отдайте 1000 руб. денег, а если галош и денег нет, то я на вас подам в суд. Тогда я ей сказала: «Подавайте в суд. Разберемся». Но в суд нас никто не вызывал, и я ее больше не видела и видеть не хочу».*

Якім чынам марнаванне часу з-за свіней і каровы паўплывала на лёсы васьмі чалавек, чытайце ў наступнай частцы артыкула.

ВЫНІКІ

# БЕЛЛІТ У 2011 ГОДЗЕ, Або ПРАДМОВА ДА КАНЦА СВЕТУ

Марыя МАРТЫСЕВІЧ

**У 2012-м усё скончыцца — Галівуд, астролагі і жоўтая прэса нас даўно папярэджвалі. Азірнёмся на пражыты год і ацэнім беларускую літаратуру ў апошні раз. Якой яна запомніцца Богу ды іншым у космасе? Што згіне разам з чалавецтвам, а што трапіць на неперадузяты суд наступных цывілізацый? Культаглядальнік «НЧ» падводзіць літаратурныя вынікі 2011 года.**



**Асоба года** — Уладзімір Някляеў, які ўвесь год трымаў удар, працуючы на мяжы жанраў палітыкі і паэзіі. Рыцар грамадзянскай мужнасці, аўтар праніклівай кнігі «Лісты да Волі».

**Выдавец года** — рэдакцыя часопіса «34». Пакуль беларускія выдаўцы вярцелі на языку тэрмін «электронная кніга» і разважалі, ці яно ім трэба, каманда «34», як у іх і заведзена, апярэдзіла ўсіх, наладзіўшы вытворчасць беларускіх кніжных навінак без друку на паперы. На віртуальных старонках «34» цягам 2011 года выйшла два «і-букі» на беларускай мове — «Сцюдзёны вырай» Віктара Марціновіча і «Радзіма» Уладзіміра Казлова. У Беларусі, дзе прадукаванне кніг, па словах выдаўца Змітра Коласа, «дарагое хобі», электроннае выдавецтва можа стаць выйсцем і культурнай рэвалюцыяй. Канец кнігадруку?..

**Дэбют года** — Эдгар Алан По. «Маска чырвонай смерці» (Мінск: Кнігазбор). Першы «выхад у людзі» калектыву часопіса «Прайдзісвет» (www.prajdzisvet.org). Кніга, якая мусіла з'явіцца да 200-гадовага юбілею класіка сусветнага рамантызму, але крыху прыпазнілася. Яна была задуманая і ўвасобленая прадстаўнікамі новай школы перакладу, а асноўную працу па падрыхтоўцы амаль акадэмічнага выдання ажыццявілі Ганна Янкута, Кацярына Маціеўская і Юлія Цімафеева.

**Імпрэза года** — міжнародны літаратурны фестываль «Вялікае княства паэзіі» 8–9 верасня, цэнтрам якога сталі прэзентацыя чатырохтомнага збору твораў Чэслава Мілаша па-беларуску (Мінск: Логвінаў, укладальнік — Андрэй Хадановіч), а таксама прэзентацыя араторыі гурта «Рацыянальная дыета» на беларускія пераклады вершаў Чэслава Мілаша.

**Канфлікт года**

У гэтай намінацыі два пераможцы: Другі з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі (17–18 кастрычніка) і XVI з'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў (11 снежня). Мала адрозныя паводле антуражу падзеі ў савецкім стылі, тым не менш, чарговы раз нагадалі пра ідэалагічны і эстэтычны раскол у асяроддзі беларускіх пісьменнікаў, пра гвалтоўны падзел на «правільных» і «няправільных».

**Персанаж года**

Каян Лупака — крэатура беларускага прафесара Франкенштэйна Альгерда Бахарэвіча.

Цыкл эсэ-рэвізій класікі белліту, якія аўтар дагэтуль плённа піша на замову «Радыё Свабода» з самага пачатку не абяцаў нічога добрага. Аматараў згаданай класікі моцна раздражняў ужо сам факт, што акцэнт у назве праекта робіцца не на класіку як такую, а на асобу рэвізора. Нацыянальная бібліятэка Беларусі. «Казкі і паданні Палесся». «Гамбургскі рахунак Бахарэвіча». Выбух не прымусіў сябе доўга чакаць. Здэнатавала эсэ «Цёмнае мінулае Каяна Лупакі», дзе Бахарэвіч аналізуе творчасць позняга Янкі Купалы, які, рыхтык як Маякоўскі, «наступіў на горла ўласнай песні» і з тонкага лірыка і аўтара геніяльнай п'есы «Тутэйшыя» ператварыўся ў сацрэалістычнага паэта-агітатара.

З нагоды Каяна Лупакі на пачатак 2012 года, здаецца, выказаліся ўжо ўсе. Меркаванні радыкальна падзяліліся. Калі, напрыклад, паэт Віктар Жыбуль бачыць у імені-анаграме «метафару дэфармацыі асобы», то некаторыя іншыя ўдзельнік дыскусіі лічаць перастаноўку літараў псеўданіма абразай памяці паэта. Прагучала смелая думка, што словазлучэнне «Янка Купала» — інтэлектуальная ўласнасць Івана Луцэвіча, і нашчадкі класіка мусяць падаць на Бахарэвіча ў суд. Аўтара «Гамбургскага рахунку» катэгарычна асудзіў мастак Рыгор Сітніца, які характарызаваў нарысы скандальнага пісьменніка як «нацыянальнае хунвэйбінства», якое «трэба спыняць» і фактычна зрабіў заклік да цэнзуры ў незалежных СМІ. Сітніцава катэгарычнае асуджэнне катэгарычна асудзіў публіцыст Сяргей Дубавец. У эсэ «Залатая мумія» ён называе крытыкаў Бахарэвіча «манапалізатарамі Купалы» і дадае: «Манапалізаваць Купалу можна толькі ў выглядзе залачонай муміі. Тым часам Купала як сонца — у кожнага свой і адзін для ўсіх, яго не манапалізуеш». Канец манаполіі на класіку?

**Пляцоўка года** — мінская кнігарня «ЛогвінаЎ». Невялікае (як усё, што ў Беларусі датычыць незалежнай культуры) памяшканне ў форме літары «П», дзе ў 2011 годзе адбылося каля 120 літаратурных сустрэчаў. Апроч таго, за год тут істотна палепшыўся гандаль: на паліцах прадстаўленыя ці не ўсе кніжныя навінкі, шмат класікі, рарытэтных выданняў... У Беларусі няма кніжнага рынку, але, калі ён раптам уздумае заявіць пра сябе, для яго ўжо гатовы першы павільён — у дварах за мінскім домам з надпісам «Подзвіг народа».

**Чыноўнік года**

Вопыт з'езду дэмакратычнага СБП паказаў: змена літаратурных пакаленняў большасці айчынных пісьменнікаў непатрэбная і непажаданая. Выдатна гэта разумеючы, у афіцыйным лагеры белліту моладзь насаджаюць на кіруючыя пасады спецыяльнымі загадамі.

29-гадовая Тацяна Сівец у сярэдзіне 2011-га змяніла на пасадзе галаўрэда часопіса «Маладосць» Раісу Баравікову. Выпусціўшы ў свет лічаныя нумары абноўленага выдання, Тацяна атрымала «перавод» — са снежня 2011 года яна галоўная рэдактарка газеты «Літаратура і мастацтва». Сівец — гэта яшчэ і новы афіцыйны твар беларускай літаратуры: яна прачнулася знакамітай пасля сустрэчы «правільных» літаратараў з прэзідэнтам 25 кастрычніка.

Таленавітая лірычная паэтка і дзіцячы драматург імкліва стаецца зоркай дзяржаўнай тэлевізіі, сумленным адвакатам беларускіх літаратараў, так, нібы беларуская літаратура паводле КК РБ — злачынства. Вось, напрыклад, як яна тлумачыць адсутнасць у беларусаў самага запаветнага: «Нобелеўская прэмія — гэта нешта, звязанае з палітыкай. Таму спадзяюся, што беларускім пісьменнікам не хутка свеціць Нобелеўская прэмія, бо для гэтага трэба, каб усё было вельмі кепска ў краіне, каб былі вялікія праблемы»... Ці стане Тацяна лукашэнкаўскай Кацярынай Фурцавай і Наталляй Пяткевіч ад літаратуры?

**Тэндэнцыя года** — маргіналізацыя паэзіі. І, адпаведна, актуалізацыя прозы.

Гэта сусветная тэндэнцыя, прадыктаваная сусветным жа кніжным рынкам. Яе ўкараненне нядаўна пачалося і ў Беларусі, хоць, як ужо гаварылася вышэй, кніжны рынак тут адсутнічае. Абвешчаная 3 снежня польска-беларуская Літаратурная прэмія імя Ежы Гедройца будзе ўручацца за найлепшую кнігу мастацкай прозы — паэзія ўвогуле не бярэцца арганізатарамі пад увагу. Так, нібы ў паэзіі нельга сягнуць літаратурных вяршыняў.

Як вынік, з літаратурных пляцовак паэзія мігруе ў самыя розныя сферы, — рок-сцэна (праект Лявона Вольскага «Белая яблыня грому» на вершы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя, песня «Не быць скотам» Сяргея Міхалка на словы Янкі Купалы), трыбуна (гімн «Муры» Яцка Качмарскага ў перакладзе Андрэя Хадановіча), храм (кніга Рыгора Барадуліна «Аніма»). Чытача перастала цікавіць паэзія ў яе чыстым выглядзе. Прысуджэнне Нобеля Тумасу Транстрамеру — шведскаму паэту, які спрычыніўся да паўставання мадэрнай еўрапейскай паэзіі — свайго кшталту нонканфармізм Шведскай Акадэміі, спроба пераставіць акцэнт з і так папулярнай прозы на высокую паэзію. У XXI стагоддзі яна ўсё больш застаецца ў цэну.

Новыя павевы добра адчуваюцца беларускімі творцамі. Так, з кнігамі мастацкай прозы сёлета выступілі бард Віктар Шалкевіч, рок-спявак Лявон Вольскі, мастак Артур Клінаў, паэт, бард і перакладчык Серж Мінскевіч, культуролаг Сяржук Вітушка... Канец «нацыі паэтаў»?

**Экспарт года**

Шлях літаратуры нашага рэгіёну да сусветнай вядомасці ляжыць праз Польшчу і Нямеччыну. І таму знакавым стаецца тое, што прэстыжную ўсходнееўрапейскую прэмію «Ангелус» у снежні 2011 года атрымала Святлана Алексіевіч за кнігу «У вайны не жаночы твар» (выдавецтва «Чарнэ», пераклад на польскую мову Ежы Чэха). Характэрна, што ў шорт-лісце прэміі фігуравала яшчэ адна беларуская кніга — «Рыбін горад» Наталкі Бабінай (выдавецтва «Рэбіс», пераклад на польскую Малгажаты Бухалік). «Беларуская літаратура стала адкрыццём сёлетняй прэміі» — сказаў сябар журы «Ангелуса» Анджэй Завада на ўрачыстай цырымоніі ў Вроцлаве.

**І галоўнае**

Цягам 2011 года ніводная літаратурная суполка не падрыхтавала і не выпусціла ніводнага календара з выявамі сучасных беларускіх літаратараў — апрануты ці не. Насуперак набліжэнню канца свету, гэта, безумоўна, добры знак.

## Кніга года

**Паэзія:** Антон Брыль «Не ўпаў жолуд» (Мінск: Логвінаў, серыя «Галерэя Б»). Пара дзясяткаў самых моцных беларускіх вершаў XXI стагоддзя.

**Проза:** Віктар Шалкевіч «Рэквіем па непатрэбных рэчах» (Гародня, серыя Гарадзенская бібліятэка). Шчымлівы і шчыры расповед пра дзяцінства і юнацтва ў мястэчку Поразава, гісторыя краіны, пададзеная праз лёс дарагіх сэрцу рэчаў, калісьці — прадметаў першай неабходнасці, а сёння — антыкварных насельнікаў старой хаты. Кніга, якая вельмі нагадвае «сямейны альбом» Вінцэся Мудрова, напісаная ў найлепшых традыцыях беларускай эсэістыкі.

**Пераклад:** ARCHE №4-2011, «Уяўляючы Балканы» (укладальнік Сяргей Сматрычэнка). Незаслужана незаўважаная (відаць, праз часопісны фармат) салідная падборка перакладаў, якія адкрываюць нам Балканскі субкантынент. Жамчужына нумару — «кніга ў часопісе» — зборнік Міленкі Ергавіча «Сараеўскае Мальбара» ў перакладзе Сяргея Шупы.






ЦІКАВА

# БРЭСЦКІЯ ПАДЗЯМЕЛЛІ





Фота аўтара





Яўген БЯЛАСІН

**У жніўні я праваліўся ў нейкую шахту каля Мухаўца, прыхаваную травой. Ледзьве адтуль вылез. Тады гэта было расплатай за цікавасць разявакі — пайшоў паглядзець на рыбакоў, якіх пусцілі вудзіць бліжэй да «калючкі». Але праз той выпадак я атрымаў і своеасаблівае пацвярджэнне гісторыі, расследаваннем якой займаўся даўно.**

## Тунэль ад вакзала да крэпасці

Пра тунэль ад Брэсцкага чыгуначнага вакзала за горад распавяла мне берасцейка Таццяна Мікалаеўна Лазеба, якая не так даўно вярнулася ў горад дзяцінства:

— Калі была дзіцём гадоў дзесяці, чула ад дзядулі, што дзесьці ў годзе 1949-м яны вырашылі паглядзець, куды вядуць падземныя хады Брэста. Дзядуля да вайны працаваў у Брэсцкай крэпасці на будоўлі ўмацаванняў, так што тэрыторыю ведаў добра, нягледзячы на тое, што даязджаў на працу з вёскі Братылава (гэта ў 10 кіламетрах — Я.Б.) Але заглыбіліся яны нібыта з чыгуначнага вакзала, з сутарэнняў. Нібыта доўга ішлі, заблукалі пад зямлёй, і аж на трэці дзень выйшлі далёка за горадам, кіламетрах у пятнаццаці. Не ведаю, ці перша-пачаткова ход вёў у крэпасць. Я была малая, не зважала. Але такое ўражанне, што на ўсход ішоў. Там жа і вуліца ёсць Фартэчная. Дык, можа, ход той у форт быў.

А што лічаць адмыслоўцы?

У музеі горада сказалі, што не ведаюць пра падземныя фартыфікацыі, але «яны не здзівілі б гісторыка, калі казаць пра Брэсцкую крэпасць».

Але ж, хоць інтуіцыя падказвае найперш крэпасць як месца магчымых падземных схронаў і камунікацый, тут рэальна быў названы вакзал!

Аўтар гістарычнага буклета пра Брэст, гісторык архітэктуры Ірына Лаўроўская лічыць: «Напэўна ёсць толькі 200-метровы тунель пад чыгункай ад вакзала да гасцініцы «Буг». Матывацыя: пры Сталіне рабілі глыбокія бункеры, патаемныя схроны для кіраўнікоў рознага рангу. Тут маглі аднавіць тое, што было раней, прыстасаваць для бяспекі штабоў. А тое, што пра яго вядома мала, — дык канспіратыўнасць пры таталітарным рэжыме забяспечвалася страхам.

## След вядзе…

Не так даўно давялося мне па слядах адной біяграфіі наведаць музей пры Брэсцкім чыгуначным вакзале. Але тады мой колішні суразмоўца, дырэктар музея Сава Ціханавіч Шпудзейка, трапіў у бальніцу. Тыдні з два давялося чакаць. На шчасце, здароўе ветэрана направілася, і ён у абмен на мой расповед пра перспектыўныя для турызму тунэлі расказаў шмат цікавага.

Найперш мне былі паказаныя фатаграфіі: дзве трубы дыяметрам амаль у рост чалавека нахільна вядуць ад падлогі падвала ўніз. Далей адносна свежая кладка: замуравана. Трубы скіраваныя ў бок крэпасці, кажа музейшчык. Дык, можа, туды і выходзяць.

Абгаворваем з Савам Ціханавічам актуальную для жыхароў Брэсту апошнімі гадамі тэму падтапленняў. Калі пасля вайны ў 1949 годзе з сутарэнняў вакзала адкачалі ваду, якую гітлераўцы яшчэ ў 1941 налілі, каб выціснуць адтуль савецкіх вайскоўцаў і міліцыянтаў, там суха было, кажа знаўца. Быў да 1952 года зроблены капітальны рамонт. План працаў мусіць ляжаць у Кіеве ў адным з праектных інстытутаў. А вада не была праблемай для Брэсцкага вакзала яшчэ з часоў пабудовы. Калі цяпер рабілі рэканструкцыю Маскоўскага боку, прасвідравалі праверачную свідравіну — пад вакзалам 18-метровая гліняная падушка закладзеная, і ўшыркі дзесяціметровая, так што грунтовай вады тут няма, уразіў дырэктар музея.

Тут мне надта захацелася самому глянуць. Трэба, кажу, палепшыць фатаграфіі вашы. Музейшчык пагаварыў у адміністрацыі, галоўны інжынер загадаў даць мне спяцоўку, і вось яны — фота патаемных труб!

Аказалася, што пасля адкачвання вады сутарэнні засыпалі пяском і друзам. Насыпны грунт быў добра бачны ў ракавінах-праёмах гафрыраваных, яўна пасляваенных, жалезных труб. Ацаніўшы іх стан, лезці да замуравана месца я не рызыкнуў.

Наверсе інжынер распавёў, што грунт збіраюцца вымаць на паўтара метры, пад падземным памяшканні. Чым не магчымасць для археолагаў і спелеолагаў з тураператарамі, падумалася мне…

## Пры чым тут турызм?

Неяк трапіўся на вочы каментар на адным з брэсцкіх сайтаў, у якім пасажырка з Масквы жалілася, што, прыехаўшы позна ўвечары ў Брэст, не магла нічым даехаць ад вакзала да Брэсцкай крэпасці. Вось вам і яшчэ адна падказка: быў бы падземны ход з аўтапропускам-манетазборнікам, тэлекамерамі — любата! Гэта ж які горад у свеце можа такім пахваліцца — старажытны тунэль, са шкілетамі, пацукамі, здані буклеты прадаюць — і праз пятнаццаць хвілін ты выходзіш у казамат крэпасці, дзе можаш на кампутары згуляць у бой рускіх з аўстрыякамі, палякаў з немцамі, савецкіх і фашыстаў… А далей рэстаран «Цытадэль» можна ўжо ў рэале наталіць смагу. Падсветка, у чэрвені салаўі… Апрануў форму НКУС, стаў каля Тэрэспальскай брамы — і вось ужо «…в четыре часа утра, без объявления войны, вероломно напали»…

Адным словам, камерцыялізацыя, як тая рыбіна, выбліснe гораду Брэсту сваім светлым бокам — прыбудзе грошай, а значыць, будуць буклеты, значкі, кніжкі. І луста будзе таўсцейшая, масла на ёй больш. Зноў-такі, калі дадасца малы памежны рух з Польшчай, дык грошы звабяць грошы — з'явяцца інвестары.

## Яшчэ версія

Пакінуўшы нябёсы мараў, я наведаў музей абароны Брэсцкай крэпасці. Навуковы супрацоўнік Алена Грыцук паказала мне Казематны план крэпасці 1850 года. Лазаў тунэляў няма, сказала спадарыня Грыцук. Але гэта ж ваенная справа, яны маглі быць (і бадай што павінны былі быць) засакрэчаныя. І потым, кажа музейшчыца, нябожчык айцец Ігар казаў неяк, што быў раней ход з царквы на цытадэлі ў форт Гаўрылава.

Не паленаваўся я схадзіць у царкву. Але там аспрэчылі тое як ерась.

Вартая згадкі і гісторыя з брэсцкай блогасферы. Нібыта «чорныя дыгеры» знайшлі ў Брэсцкай крэпасці ход, схадзілі па ім у экспедыцыю і выйшлі… у польскім Тэрэспалі. Калі ўлічыць статус крэпасцяў, з якіх часам трэба выслаць ганца або зрабіць вылазку на ворага, калі ўлічыць, што Першая сусветная вайна шмат дзе вялася пад зямлёй (эскарпы, контрэскарпы, падрывы варожых умацаванняў) — у тунэлях пад Брэсцкай крэпасцю, насамрэч, няма нічога дзіўнага.

## Што ў актыве?

Варта ўсур'ёз заняцца даследаваннем версіі існавання падземных сутарэнняў пад Брэстам, задумацца пра іх аднаўленне.

Сёння таму спрыяюць і абставіны. Проста, калі ў Брэсцкім вакзале пачнуцца працы па выемцы грунту з сутарэнняў, трэба, паўтаруся, пасадзіць там археолагаў. Яны ўжо там крыху капалі — знайшлі стары чайнік і пару лыжак. Ёсць шанс прадоўжыць пошук.

Варта чакаць, што калі такі жаданы для горада план пераносу аўтавакзала бліжэй да чыгуначнага з новай прывязкай цераз каляіны ўсё-такі будзе рэалізаваны, дык тунель паміж імі абавязкова трэба будзе будаваць.

Нарэшце, чакаем водгукаў, сведчанняў, нават здагадак і версій. Брэст ужо стаў аб'ектам рамана ў стылі магічнага рэалізму («Рыбін горад» берасцейкі Наталкі Бабінай, у якім згадваюцца і тунелі). Можам калектыўна вярнуць нашаму гораду адну з самых экзатычных і грашавітых атракцый — не згубіўшы па дарозе магічнага пачатку.

Прыкладам, вось адзін са шляхоў. Самы першы мост цераз Мухавец у Брэсце пабудаваў на пачатку XV стагоддзя з дазволу магістрата Моўша (Кандыбовіч?) пабудаваў выключна на свае грошы і атрымаў пажыццёвае права на мыта. Хто ні ехаў па мосце — плаціў Моўшы ўстаноўленыя грошыкі. Хто ні прасіўся ў шлюз (мост, па сведчанні Лаўроўскай, быў разводны са шлюзам) — заплаці і плыві далей. Такі сама ручаёк можна дазволіць і таму, хто адновіць тунэль ад вакзала да крэпасці. А даць у арэнду пажыццёва ці гадоў на дваццаць — гэта ўжо справа тэхнікі і сучаснага магістрату.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.
ЗАСНАВАЛЬНІК: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: (+375 17) 284 85 11.
ВЫДАВЕЦ: Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл.: (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org
НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
Замова № 14

Падпісана да друку 6.01.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.